**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

25 кастрычніка 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 43 (2705)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


АКТУАЛЬНА

## ВЫБАР ЗРОБЛЕНЫ?

Пятнаццатага кастрычніка ў Беларусі прайшлі выбары ў ніжнюю палату Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь — Палату прадстаўнікоў. Па афіцыйных звестках, з 110 акруг галасаванне адбылося ў 97. На выбарчыя ўчасткі з'явілася 61,08 працэнта выбаршчыкаў. У ходзе першага тура дэпутатамі абраны 41 чалавек, з якіх 22 — члены Палаты прадстаўнікоў першага склікання. У лік пераможцаў ужо трапілі такія ўплывовыя асобы з асяроддзя цяперашняй улады, як Анатолій Малафееў, Уладзімір Канаплёў, Леанід Глухоўскі, Віктар Кучынскі, Іван Пашкевіч... Дарэчы, сярод выбраных ёсць і прадстаўнікі палітычных партый: 4 дэпутаты ад Аграрнай партыі, 2 — ад Камуністычнай партыі Беларусі і па адным ад партыі Народнай згоды і Сацыяльна-спартыўнай. З 41 абранага — толькі тры жанчыны.

Праз два тыдні ў 56 акругах пройдзе другі тур, які і расставіць усе кропкі над "і". Ну а там, дзе выбары не адбыліся (гэта значыць на выбарчыя ўчасткі з'явілася меней за 50 працэнтаў грамадзян, маючых права голасу), будзе паўторнае вылучэнне кандыдатаў і не пазней, як праз тры месяцы, — галасаванне. Аднак, па меркаванню старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзіі Ярмошынай, яшчэ да сярэдзіны снежня першая сесія Палаты прадстаўнікоў зможа распачаць сваю работу.

Гэта тое, што тычыцца афіцыйных звестак і лічбаў. Калі ж згадаць агульную атмасферу вакол падзеі, то трэба сказаць, што асаблівай вастрыні ў супрацьстаянні кандыдатаў не надарылася, бо звычайна закручаная інтрыга дыктуецца проціборствам кандыдатаў ад улады і апазіцыі. У даным выпадку нічога падобнага не назіралася: па-першае, найбольш значныя і ўплывовыя партыі прынялі рашэнне байкатаваць парламенцкія выбары-2000, палічыўшы іх несвабоднымі і несправядлівымі, а па-другое, тыя апазіцыйныя вылучэнцы, хто прыняў асабістае рашэнне балаціравацца, практычна ўсе былі "зняты з дыстанцыі" акруговымі выбарчымі камісіямі яшчэ на пачатковым этапе — у большасці выпадкаў, як вынікала з афіцыйных тлумачэнняў, з-за няправільна аформленых дакументаў і падпісных лістоў.

Заканчэнне на 2-й стар.

ГОСЦІ Ў ДОМ



Фота Валерыя БЫСАВА.

На мяжы Беларусі і Расіі ў вёсцы Звянчатка Клімавіцкага раёна каля года працуе прыватная гасцініца. Тут можна адпачыць, адрамантаваць аўтамабіль, смачна паесці.

ФУТБОЛ



Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

Беларускія футбалісты працягваюць барацьбу за ўдзел у чэмпіянаце свету 2002 года.

У Мінску на стадыёне "Дынама" прайшоў адборачны матч паміж зборнымі камандамі Беларусі і Арменіі, які сабраў каля 20 тысяч гледачоў. З лікам 2:1 перамаглі беларускія футбалісты.

Турнірная табліца 5-й адборачнай групы выглядае наступным чынам:

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Польшча | 3 | 2 | 1 | 0 | 6-2 | 7 |
| Беларусь | 3 | 2 | 0 | 1 | 5-5 | 6 |
| Украіна | 3 | 2 | 0 | 1 | 5-5 | 6 |
| Уэльс | 3 | 0 | 2 | 1 | 2-3 | 2 |
| Нарвегія | 3 | 0 | 2 | 1 | 1-2 | 2 |
| Арменія | 3 | 0 | 1 | 2 | 3-5 | 1 |

Як бачна з табліцы, зборныя Беларусі і Украіны маюць аднолькавыя вынікі. Гэтую раўнавагу можа парушыць першы матч вясенняй часткі турніру, які адбудзецца 24 сакавіка ў Кіеве.

Адбудуцца таксама сустрэчы:

24.03.2001 года. Нарвегія — Польшча, Арменія — Уэльс.

28.03.2001 года. Беларусь — Нарвегія, Польшча — Арменія, Уэльс — Украіна.

НА ЗДЫМКУ: момант матча паміж футбалістамі Беларусі і Арменіі.

**АКАДЭМІЧНАЯ ГРЭБЛЯ.** Нягледзячы на чуткі, што з наступнага сезона Кацярына Карстэн будзе выступаць за зборную Германіі, двухразовая алімпійская чэмпіёнка пацвердзіла сваё жаданне застацца членам беларускай нацыянальнай зборнай.

ПАДЗЕЯ

**НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ Жарэс АЛФЁРАЎ — УРАДЖЭНЕЦ ВІЦЕБСКА.** Гордасць з нагоды прысваення расійскаму фізіку Жарэсу Алфёраву Нобелеўскай прэміі адчуваюць і віцябляне. Вучоны, адзначаны камітэтам па Нобелеўскіх прэміях Шведскай акадэміі навук за развіццё паўправадніковых гетэраструктур для оптаэлектронікі і электронікі высокіх скорасцей, — іх зямляк. Як паведаміў карэспандэнту БелТА віцебскі краязнавец, журналіст Сяргей Кавалеўскі, акадэмік, чыё імя ўпісана ў Стакгольме ў адзін рад з імёнамі Эйнштэйна, Кюры, Бора, Ландау, Капіцы, нарадзіўся ў 1930 годзе ў Віцебску. Разам з сям'ёй Жарэс Алфёраў жыў тут у даваенны час.

**«ГР» МОЖНА НАБЫЦЬ У МІНСКУ:**

- магазін "Глобус" (каля Галоўпаштамта),
- кіёск № 131 (Політэхнічная акадэмія),
- кіёск № 158 (вул. В. Харужай, 2),
- магазін № 2 (пр. Скарыны, 46),
- кіёск № 11 (каля Галоўпаштамта),
- кіёск № 12 (пр. Скарыны),
- кіёск № 13 (пр. Скарыны),
- кіёск № 99 (Прывакзальная плошча),
- кіёск № 1 (пл. Перамогі, пераход),
- кіёск № 68 (хлебны магазін, плошча Перамогі),
- кіёск № 73 (ГУМ),
- кіёск № 79 (пр. Машэрава),
- магазін № 18 (пл. Перамогі),
- кіёск № 226 (вул. Казінца, 29),
- кіёск № 243 (Міністэрства культуры, унутраны),
- кіёск № 21 (метро "Пушкінская", пераход).

*У Прэшаўскім універсітэце Славацкай Рэспублікі адбыўся міжнародны навуковы семінар "Славацка-беларускія моўныя, літаратурныя і культурныя сувязі". З беларускага боку на семінары выступілі з дакладамі навукоўцы, якія па абмену выкладаюць беларускую мову і літаратуру ў славацкіх ВНУ.*

*Сёлета ў славацкіх універсітэтах у Банскай Быстрыцы і Прэшаве на кафедрах славістыкі створаны групы па вывучэнню беларускай мовы. Пра зацікаўленасць беларускай моваю і літаратураю сведчыць паўторнае выданне ў гэтым годзе кнігі "Беларуская літаратура ў Славакіі" прафесара Прэшаўскага універсітэта Йозафа Шэлепца. Творы беларускіх літаратараў змяшчаў таксама аўтарытэтны славацкі часопіс "Рэвю сусветнай літаратуры".*

*Па выніках конкурсу на лепшую краязнаўчую работу, які праводзіла Міністэрства адукацыі Славакіі, браціслаўскі школьнік Уладзіслаў Семак атрымаў дыплом за работу "Беларусь — краіна невядомая". Ён жа як удзельнік конкурсу выступіў з 15-хвілінай інфармацыяй пра Беларусь па радыё Славакіі. Уладзіслаў Семак быў прыняты ў аддзяленні пасольства Беларусі ў Браціславе, яму выказана ўдзячнасць і ўручаны памятныя кнігі пра Беларусь.*

Прэс-служба МЗС.

## ЧАМУ СЛАВАКІ ЦІКАВЯЦЦА БЕЛАРУССЮ?

● Наталля КІСЯЛЁВА.

Славакія — краіна невялікая. Па колькасці насельніцтва ўдвая меншая за Беларусь нават у сітуацыі дэмаграфічнага крызісу, а па тэрыторыі і зусім малая. Аднак народ у ёй жыве неабыякавы да падзей, што адбываюцца ў свеце. І ў асноўным вельмі прыязны да Беларусі і беларусаў, калі не кранаць дзяржаўную палітыку.

Выклікана гэта шэрагам фактараў: ад спрадвечнага пачуцця роднасці з братамі-славянамі да эканамічных інтарэсаў на ўсходніх рынках. Часцей за ўсё ў размове са славакам пачуеш такую матывацыю: цяпер зрабілася модаю ўсё пераймаць з Захаду, прасіць грошай на Захадзе і дуць у яго дуду на арэне вялікай палітыкі. Але мы не павінны забывацца на куды больш блізкія і родныя нам славянскія дзяржавы, з якімі нас аб'ядноўвае не толькі супольнае гістарычнае мінулае. Яны бліжэйшыя да нас і сваім менталітэтам, мы лепш разумеем адно аднаго, а значыць, у цяжкую хвіліну можам хутчэй разлічваць на дапамогу братніх славянскіх народаў, нават калі яны не будуць з гэтага мець нейкія эканамічныя ці палітычныя выгады, чаго не скажаш пра Захад. Акрамя гэтага, многія з тых, з кім мне давялося размаўляць, падкрэслівалі, што будучыня славянскіх эканомік непасрэдна залежыць ад эканамічнай

Заканчэнне на 6-й стар.

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

ПЕРСПЕКТЫВЫ

# ПЕРАГАВОРЫ З «СЛАВНАФТАЙ» ПАСПЯХОВА ЗАВЕРШАНЫ

● Лілія КРАПІВІНА, *БелТА.*

У адносінах, якія будуе Беларусь з міждзяржаўнай нафтагазавай кампаніяй "Славнафта", не засталося нявырашаных пытанняў. Усе перагаворы паспяхова завяршыліся. Нядаўна падпісанае пагадненне паміж урадам рэспублікі і кампаніяй практычна "ўтрасло" ўсе складанасці з фінансаваннем работ па рэканструкцыі Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, што сведчыць аб высокім даверы бакоў адзін да аднаго. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, прымаючы ў сваёй рабочай рэзідэнцыі кіраўніка ААТ "НГК "Славнафта" Міхаіла Гуцарыева.

Кіраўнік дзяржавы сёлета ўжо не першы раз сустракаецца з кіраўніком кампаніі. Ажыццяўленне рэканструкцыі на мазырскім заводзе вядзецца пад асабістым кантролем Прэзідэнта Беларусі. Праектам прадугледжваецца завяршыць да 2003 года будаўніцтва комплексу каталітычнага крэкінгу. Гэта дасць магчымасць павялічыць глыбіню перапрацоўкі нафты, узрастуць аб'ёмы вытворчасці нафтапрадуктаў і іх экспартныя пастаўкі. У прававдзенне апошняга, чацвёртага этапа рэканструкцыі, будзе ўкладзена звыш 100 мільёнаў долараў. У 2000 годзе праект мяркуецца прафінансаваць на 23 мільёны долараў. Прэзідэнт краіны запэўніў, што ні адна капейка з гэтых сродкаў не будзе страчана. Ён выказаў упэўненасць, што ў сумеснай рабоце ўдасца дабіцца добрага выніку.

На думку Міхаіла Гуцарыева, праект будзе паспяхова ажыццёўлены. Пасля завяршэння рэканструкцыі ў Мазыры з'явіцца лепшая ў краіне высокаэфектыўная вытворчасць, якая ў перспектыве можа стаць базавым прадпрыемствам для развіцця эканомікі саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, лічыць прэзідэнт "Славнафты".

У ходзе сустрэчы Аляксандр Лукашэнка і Міхаіл Гуцарыеў абмеркавалі таксама перспектывы далейшага супрацоўніцтва ў галіне нафтахіміі. Будзе весціся работа і над праектамі па развіццю сумеснай сыравіннай базы, што прадугледжвае здабычу нафты і газу ў Расіі і за мяжой.



*Паміж Саветам Міністраў Беларусі і нафтагазавай кампаніяй "Славнафта" падпісана пагадненне аб стварэнні ў ААТ "Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод" комплексу глыбокай перапрацоўкі нафты.*

*НА ЗДЫМКУ: прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір ЯРМОШЫН і прэзідэнт кампаніі "Славнафта" Міхаіл ГУЦАРЫЕЎ пасля падпісання пагаднення.*

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

АКТУАЛЬНА

# ВЫБАР ЗРОБЛЕНЫ?

Пачатак на 1-й стар.

Таму, уласна кажучы, 15 кастрычніка прынцыповага палітычнага выбару грамадзянам Беларусі не прапаноўвалася, а значыць многія з тых, хто прыйшоў галасаваць, у сваім выбары кіраваліся чыста знешнімі сімпатыямі да таго ці іншага кандыдата.

За некалькі тыдняў да галасавання апазіцыя разгарнула грамадскую агітацыйную акцыю, звернутую да насельніцтва краіны, пад назвай "Байкот-2000": людзей заклікалі ўвогуле не ісці на выбарчыя ўчасткі. Сказаць, што гэты зварот быў усімі пачуты і прыняты да ведама, — нельга. Але пэўны вынік ён меў: арганізатары выбараў не атрымалі таго ўзроўню, на які разлічвалі — не менеў 70 працэнтаў. Асабліва складана ішло галасаванне ў гарадах, і найперш — у Мінску, дзе да апошняга моманту не было зразумела, адбыліся тут выбары ці не.

Нават позна ўвечары, калі Цэнтрвыбаркам ужо атрымаў асноўныя звесткі з рэгіёнаў, яго старшыня Лідзія Ярмошына не магла сказаць журналістам нічога канкрэтнага пра сітуацыю ў самой сталіцы. І толькі раніцай паведамілі: і ў Мінску выбары адбыліся.

Цікава, што пераможцам "па яўцы" стала Гродзенская вобласць. Але абсалютныя лічбы рэкорда выдала, канешне, малая радзіма кіраўніка беларускай дзяржавы — Шклоўшчына: там віцэ-спікер Палаты прадстаўнікоў першага склікання У. Канаплёў атрымаў болей за 80 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў.

Тым не менш, даць цалкам адназначны адказ на пытанне, хто ж перамог у барацьбе за ўплыў на настрой насельніцтва, немагчыма: ні той, ні іншы бок не дасягнулі запланаванага, але разам з тым і тыя, і іншыя пэўныя палітычныя дывідэнды атрымалі.

Акрамя магчымасці байкоту галасавання насельніцтвам, афіцыйны Мінск вельмі хваляваля і праблема прызнання выбараў міжнароднымі еўрапейскімі структурамі, значныя цяжкасці ў адносінах з якімі існуюць у апошні час. Трэба сказаць, што дзярждэпартамент ЗША не прызнаў цяперашнія выбары яшчэ да іх правядзення, бо палічыў, што ў час падрыхтоўкі не выгрымліваліся неабходныя дэмакратычныя нормы. І АБСЕ вырашыла не дасылаць на беларускія выбары сваю афіцыйную дэлегацыю міжнародных назіральнікаў, а абмежавацца місіяй па тэхнічнай ацэнцы Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека. Як крок у адказ, Беларусь запрасіла з 28 краін свету амаль паўтары сотні, як было сказана, незалежных назіральнікаў, зарэгістраваных беларускім МЗС у якасці міжнародных. У выніку нават атрымаўся канфлікт паміж выбарамі афіцыйнай "еўрапейскай тройкі", якая негатыўна паставілася да выбараў, і ацэнкамі запрошаных незалежных назіральнікаў, у масе сваёй прыняўшых падзею ці не "на ўра". Што з гэтага атрымаецца, як звычайна, пакажа час. Але пакуль, здаецца, палітычнае становішча на Беларусі лягчэйшым не зробіцца, тым больш напярэдадні — прэзідэнцкія выбары 2001-га года.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

МЕРКАВАННЕ

# З МАЛДОВЫ НА БЕЛАРУСЬ — БЕЗ ПЕРАШКОД

Днямі міністр гандлю Пётр Казлоў расказваў аб стане спраў у гэтай галіне.

Верасень — кастрычнік, як вядома, — месяцы для Міністэрства гандлю самыя адказныя. Менавіта ў гэты перыяд адбываецца закладка і нарыхтоўка жыўелагадоўчай, плодагароднінай прадукцыі напярэдадні зімы. Як адразу заўважыў Пётр Афанасьевіч, сёлета нарыхтоўка прайшла як ніколі арганізавана.

Пра тое сведчаць і лічбы. Да 1 лістапада 2000 года міністэрства павінна было нарыхтаваць: масла жывёльнага — 12,9 тысячы тон; сыроў сычужных цвёрдых — 2,9; сухога малака — 14,0; тварагу — 2,4 тысячы тон. На 1-е ж кастрычніка склады прынялі прадукцыі адпаведна 11,7; 1,8; 13,4; 2,4 тысячы тон.

Да таго ж, па словах міністра, напрыклад, зменшылася патрэба ў масле, бо ўжыванне яго ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях скарацілася. Між іншым, расійскае масла з раслінным дабаўкамі на Беларусь завозіцца не будзе, бо ў мінулым годзе нашы людзі яго не ўспрынялі.

А тое, што па сырах не дацягваем, таксама, па думку міністра, не падстава для хвалявання. Калі масла можна закладваць у чэрвені-ліпені, то сыры — як мага пазней, бо тэрмін іх захавання — тры-чатыры месяцы; таму план па іх нарыхтоўцы мяркуецца поўнасцю выканаць у лістападзе.

Тая ж прыкладна сітуацыя і з плодагароднінай прадукцыяй. Па садавіне, напрыклад, неабходны запас будзе зроблены ў бліжэйшы час. Плануецца, што яблыкі, якія будуць рэалізоўвацца ў зімова-вясенні перыяд, завязуць з Малдовы.

Дарэчы, аб Малдове. Сёлета тут знята амаль што не галоўная праблема: з праездам праз Украіну. Ёсць дамоўленасці з украінскімі ДАІ, МУС, так што нейкіх там вялікіх пабораў цяпер не прадугледжваецца. Вырашылі і фінансавы бок праблемы: плата за прадукцыю будзе ажыццяўляцца праз месяц пасля яе пастаўкі, а таксама па бартэру. Тры тысячы тон беларускай бульбы ўжо ў Малдове, хутка туды адпраўяцца і айчынныя трактары...

А напрыканцы сустрэчы міністр паабяцаў, што перабояў з шампанскім пад Новы год сёлета не будзе...

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

АСОБА

● Раман КАБЯК.

Лепшым старшынёй калгаса ў Брэсцкай вобласці сяроддзе кіраўнікоў, якія прапрацавалі на гэтай пасадзе меней троx гадоў, лічыцца старшыня калгаса "Кастрычнік" Камянецкага раёна Міхаіл СТРАПКО (на здымку). Летась гаспадарка выканала дзяржзаказ па ўсіх відах сельскагаспадарчай прадукцыі.



ТОЛЬКІ ФАКТ

**«ФОРД-ЮНІЁН» НАБЫЎ АНГЛІЙСКІ АКЦЭНТ.** Кантрольны пакет акцый (62 працэнты), што належыць FORD MOTOR COMPANY (FMC), ва ўстаўным фондзе сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства "ФОРД-ЮНІЁН", якое знаходзіцца ў пасёлку Абчак Мінскага раёна, перададзены яго новаму ўладальніку — вытворцу вырабаў з пластмасы — англійскай кампаніі J&W Sander — son, Ltd. Пагадненне аб пакупцы акцый было дасягнута ў выніку перагавораў FMC з усімі партнёрамі СП пра магчымыя варыянты выкарыстання завода і стварэння працоўных месцаў для яго супрацоўнікаў. У заяве FMC гаворыцца, што рашэнне "Форда" аб продажы свайго пакета ў СП ініцыіруе развіццё сумесным прадпрыемствам вытворчасці пластмасавых вырабаў як бытавога прымянення, так і тых, што выкарыстоўваюцца ў сучаснай аўтамабільнай прамысловасці па тэхналогіі кампаніі, шырока прадстаўленай на рынках Еўропы і ЗША.

Сумеснае прадпрыемства "ФОРД-ЮНІЁН", заснаванае ў маі 1996 года, разлічана на выпуск 6 тысяч аўтамабіляў у год. За час працы прадпрыемства выпусціла каля 4 тысяч мікрааўтобусаў Ford Transit і легкавых аўтамабіляў Ford Escort. Па словах кіраўніка FMC у Расіі і СНД Алана Баці, рашэнне аб спыненні вытворчасці ў Беларусі мадэлей аўтамабіляў Escort і Transit, што з'яўляецца часткаю еўрапейскай стратэгіі кампаніі, не звязана з якасцю і прадукцыйнасцю персанала завода, "якія заўсёды знаходзіліся на самым высокім узроўні". Рашаючым фактарам у скарачэнні вытворчасці з'явілася недастатковы попыт на прадукцыю завода на рынку СНД.

**СТАНЦЫЯ МЕТРО "МАГІЛЁЎСКАЯ" ПАЧНЕ РАБОТУ ПРАЗ ГОД.** На завяршэнне будаўніцтва станцыі метро "Магілёўская" з рэспубліканскага бюджэту будзе выдзелена каля 5 мільярдаў рублёў, заявіў прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын, які азнаёміўся з ходам работ на другой лініі Мінскага метрапалітэна.

У ходзе агляду платформы станцыі метро "Магілёўская" была яшчэ раз узгоднена дата пробнага праезду тут першага электрапоезда. Паводле папярэдніх даных, ён адбудзецца 1 ліпеня наступнага года. А закончыць усе неабходныя работы і здаць новую станцыю метро ў эксплуатацыю плануецца ў лістападзе 2001 года.

**Наталля УЛАН**, БелТА.

NACHRICHTEN AUS BELARUS * NOTICIAS DE BELARUS * NOTIZIE DI BELARUS * NOUVELLES DU BELARUS



ВЫСТАВЫ

# «НОВЫЯ ІМЁНЫ»



"Новыя імёны" — так называецца рэспубліканская выстава-конкурс маладых творцаў, што прайшла ў Палацы мастацтва. Апошні раз студэнты Акадэміі мастацтваў і мастацкага вучылішча паказвалі свае работы ў 1998 годзе. А да таго — аж у 1988. І калі на мінулай выставе кідалася ў вочы, што большасць мастакоў — мінчане, сёлета гэты перакос выпраўлены, і глядач змог пабачыць вынікі творчасці мастакоў з самых розных куткоў Беларусі. Працы ацэньваліся ў намінацыях: "Жывапіс", "Скульптура", "Графіка", "Авангарднае мастацтва", "Кераміка", "Габелен", "Мадэліраванне адзення", "Канцэптуальнае мастацтва". Журы, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі ААН на Беларусі, Камітэта па справах моладзі, Саюза мастакоў вызначыла лепшых. Гэта Вольга Лузан, Вольга Нікіціна, Валянцін Барздой, Максім Калтыгін, Святлана Багавец, Алена Ісакава.

Гран-пры атрымаў Андрэй Басалыга за серыю афортаў. Усе пераможцы стануць уладальнікамі стыпендыі Фонду Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі.

Дарэчы, большасць жаночых імёнаў на творах — уласцівасць выставы. Дзяўчаты імкнуцца ў наш небяспечны час захаваць сваю асобу і выказацца ў мастацтве. Яны малююць "Снеданне людаедаў" (З. Луцэвіч), "Ураканні дзяцінства" (Ю. Валынец), "Пакланенне беламу свету" (Н. Хацько). Ва ўсім гэтым шматгалоссі тэм і сюжэтаў ёсць галоўнае — прафесіяналізм і абаяльнасць маладосці і шчырасці.

Фонд Прэзідэнта выдзеліў грант для стварэння каталога выставы. А прадстаўніцтва ААН прапанавала некаторым канкурсантам прыняць удзел у стварэнні настольнага міжнароднага календара "Дыялог цывілізацый".

**Алена СПАСЮК.**
**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

ЗДАРЭННІ

**БЕЗ ІЛЮЗІЙ.** За дзевяць месяцаў гэтага года больш за 200 жанчын — грамадзянак Рэспублікі Беларусь, якія займаліся прастытуцыяй за мяжой, былі дэпартаваны на радзіму.

Паводле звестак МУС, беларускія жанчыны добраахвотна ці вымушана займаюцца прастытуцыяй не толькі ў краінах далёкага замежжа, але і ў былых рэспубліках Савецкага Саюза, напрыклад, у Расіі (Масква) і Прыбалтыцы.

**"ПРЫНЦА" СПЫНІЛІ НА МЯЖЫ.** Кантрабандны груз цыгарэт вартасцю 75 тысяч долараў ЗША затрыманы на кантрольна-прапускным пункце "Бераставіца". Партыя цыгарэт "Прынц" перавозілася ў аўтафургоне з Масквы ў Данію. Груз і вадзіцель затрыманы.

**"ПРАКАЦІЦЬ" ДЗЯРЖАВУ НА "МАЗах" НЕ АТРЫМАЛАСЯ.** Тарнада пранеслася па лёсу дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю.

Украінскаму ДП "Крывбассвзрывпром" яўна пашанцавала з саматужным пастаўшчыком "МАЗаў". І цана прымальная, і ўмовы кантракта. А вось родную дзяржаву "вынаходнік" вырашыў "пракаціць" — не паклапаціўся ні пра ліцэнзію, ні пра адлічэнне падаткаў у бюджэт. Шчасце доўжылася цэлых сем месяцаў, за якія прыбытак прадпрымальніка перавысіў 76 мільёнаў рублёў. Аднак надышоў час вяртацца на грэшную зямлю. Супрацоўнікі ўпраўлення Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў па Мінску і Мінскай вобласці патлумачылі гора-бізнесмену, што толькі ўтоены падатак перавысіў 15 мільёнаў рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

**Уладзімір КУЦ,**
**прэс-цэнтр ДКФР.**

ПАШАНЦАВАЛА!

● Аляксандр ХІТРОЎ.

**Уладальнікам галоўнага прыза розыгрышу латарэі, якую праводзіла сярод пакупнікоў віцебскіх тэлевізараў вытворчае аб'яднанне "Віцязь", — аўтамабіля "Жыгулі" — стаў Андрэй СНАПКОЎСКІ з Талачына.**




АФІЦЫЙНА

# О БЕЖЕНЦАХ

## ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*(17.06.1999)*

Иностранцу, ходатайствующему о признании его беженцем, не достигшему возраста восемнадцати лет и прибывшему на территорию Республики Беларусь без сопровождения его законных представителей, с учетом мнения органов опеки и попечительства также может быть вручено свидетельство.

Свидетельство является основанием для регистрации в установленном порядке иностранца, ходатайствующего о признании его беженцем, и членов его семьи в органе внутренних дел по месту пребывания на срок рассмотрения ходатайства.

Свидетельство является также основанием для получения иностранцем и членами его семьи направления в случае необходимости на временное поселение.

**Статья 8. Основания для отказа в регистрации ходатайства о признании беженцем и отказа в признании беженцем**

Основаниями для отказа иностранцу в регистрации ходатайства о признании его беженцем и отказа в признании беженцем являются следующие обстоятельства:

если ходатайство иностранца является явно необоснованным или носит характер злоупотребления;

если выявлены исключающие положения, предусмотренные статьей 3 настоящего Закона;

если иностранцу ранее было отказано в признании его беженцем в связи с отсутствием обстоятельств, предусмотренных абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, при условии, что обстановка в государстве его гражданской принадлежности (его прежнего обычного местожительства) со дня получения отказа и до дня подачи ходатайства не изменилась;

если иностранец имеет гражданство третьего государства, защитой которого он может воспользоваться, или право на пребывание на законном основании на территории третьего государства при отсутствии обоснованных опасений стать жертвой преследований в третьем государстве по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона;

если иностранец прибыл непосредственно с территории иного государства, где он временно находился до приезда в Республику Беларусь, не подвергался преследованиям или мог в установленном порядке получить убежище или статус беженца;

если иностранец покинул государство своей гражданской принадлежности (своего прежнего обычного местожительства) не по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, и не желает возвращаться в государство своей гражданской принадлежности (своего прежнего обычного местожительства) из опасения понести в соответствии с законодательством данного государства наказание за незаконный выезд за пределы его территории либо за совершенное в нем иное правонарушение;

если иностранец был вынужден незаконно пересечь Государственную границу Республики Беларусь с намерением ходатайствовать о признании его беженцем и не обратился с заявлением о своем желании быть признанным беженцем в порядке, предусмотренном частью первой статьи 7 настоящего Закона;

если иностранец отказывается сообщить сведения о себе и (или) об обстоятельствах своего прибытия на территорию Республики Беларусь;

если иностранец состоит в браке с гражданином (гражданкой) Республики Беларусь и в соответствии с законодательством Республики Беларусь имеет возможность получить разрешение на постоянное жительство на территории Республики Беларусь;

если иностранец имеет разрешение на постоянное жительство на территории Республики Беларусь (вид на жительство).

**Статья 9. Последствия отказа в регистрации ходатайства о признании беженцем**

В случае, если иностранцу отказано в регистрации ходатайства о признании его беженцем в связи с наличием обстоятельств, предусмотренных статьей 8 настоящего Закона, территориальный орган по миграции в течение трех рабочих дней со дня принятия решения об отказе вручает или направляет данному иностранцу уведомление с указанием причин отказа и порядка обжалования принятого решения, а также с разъяснением правового положения иностранца и членов его семьи на территории Республики Беларусь.

Территориальный орган по миграции информирует орган внутренних дел или подразделение пограничных войск о принятом окончательном решении об отказе в регистрации ходатайства иностранца о признании его беженцем в Республике Беларусь.

Иностранец, подавший в территориальный орган по миграции ходатайство о признании его беженцем и получивший уведомление об отказе в регистрации ходатайства, но не использующий право на обжалование решения об отказе в регистрации ходатайства в соответствии со статьей 15 настоящего Закона, обязан покинуть территорию Республики Беларусь совместно с членами его семьи по истечении месячного срока со дня получения уведомления об отказе при отсутствии у данного иностранца иных законных оснований для пребывания на территории Республики Беларусь.

**Статья 10. Права и обязанности иностранца, ходатайство которого о признании его беженцем зарегистрировано**

Иностранец, ходатайство которого о признании его беженцем зарегистрировано, а также прибывшие с ним члены его семьи имеют право на:

получение информации о порядке признания его беженцем, о своих правах и обязанностях, а также иной информации в соответствии с настоящей статьей;

проживание на время рассмотрения ходатайства в местах временного поселения по направлению территориальных органов по миграции либо самостоятельное поселение в семье гражданина Республики Беларусь или постоянно проживающего в Республике Беларусь иностранца при наличии согласия всех совершеннолетних членов семьи лица, предоставляющего жилую площадь, на совместное проживание независимо от размера занимаемой жилой площади;

бесплатную экстренную медицинскую помощь;

получение денежной помощи в порядке и размере, определяемых Правительством Республики Беларусь;

подачу заявления о прекращении рассмотрения ходатайства.

Иностранец, ходатайство которого о признании его беженцем зарегистрировано, а также прибывшие с ним члены его семьи обязаны:

соблюдать Конституцию Республики Беларусь, настоящий Закон и иное законодательство Республики Беларусь;

отбыть к месту временного поселения в течение трех суток после получения направления на временное поселение и по прибытии в течение трех рабочих дней зарегистрироваться в местном органе внутренних дел;

соблюдать установленный порядок проживания и выполнять установленные требования санитарно-гигиенических норм проживания в месте временного поселения;

пройти обязательное медицинское освидетельствование в порядке, определяемом Министерством здравоохранения Республики Беларусь;

сообщать органам государственного управления по вопросам беженцев достоверные сведения, необходимые для принятия решения по существу ходатайства.

**Статья 11. Порядок признания иностранца беженцем**

Рассмотрение ходатайства о признании иностранца беженцем в Республике Беларусь осуществляют территориальные органы по миграции, которые всесторонне оценивают:

итоги анкетирования иностранца на основе проведения индивидуальных собеседований;

достоверность полученных сведений о данном иностранце и прибывших с ним членах его семьи;

обстоятельства прибытия на территорию Республики Беларусь;

содержание представленных документов;

заключение органов государственной безопасности и органов внутренних дел;

показания свидетелей, оформленные надлежащим образом, если таковые имеются;

иные документы.

Рассмотрение ходатайства о признании иностранца беженцем в Республике Беларусь осуществляется в течение трех месяцев со дня регистрации ходатайства территориальным органом по миграции.

Срок рассмотрения ходатайства может быть продлен республиканским органом государственного управления по миграции при наличии сложностей с определением обоснованности имеющихся у заявителя опасений стать жертвой преследований, но не более чем на три месяца.

Процедура признания иностранца беженцем может быть остановлена на любом этапе, если в ходе рассмотрения ходатайства выяснится, что иностранец сообщил о себе заведомо ложные сведения или совершил деяние, создающее угрозу безопасности государства пребывания или общественному порядку.

Решение о признании иностранца беженцем в Республике Беларусь либо об отказе в признании иностранца беженцем в Республике Беларусь принимается республиканским органом государственного управления по миграции на основании заключения, представленного соответствующим территориальным органом по миграции, с учетом проведенной процедуры рассмотрения ходатайства и материалов личного дела иностранца.

Иностранцу, признанному беженцем и достигшему возраста шестнадцати лет, территориальным органом по миграции выдается удостоверение установленного образца в соответствии с Положением об удостоверении беженца, утверждаемым Правительством Республики Беларусь.

Працяг. Пачатак у №№ 40—42.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### РАСІЯ

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"! Вось ужо пяты год я вучуся ў адной маскоўскай ВНУ. Але бацькі мае, два браты і сястра, а таксама амаль усе сваякі і сябры жывуць на Беларусі. І хаця з цягам часу сум па родных галасах і тварах стаў менш вострым, чым на першым курсе, іх усё роўна моцна не хапае, і ўсё роўна цягне дамоў.

На шчасце, у Маскве я пазнаёміўся з мясцовымі беларусамі, якія аказаліся вельмі шчырымі і добразычлівымі людзьмі. Дзякуючы ім, я маю магчымасць чытаць вашу цікавую і надзвычай патрэбную газету.

Туга па Радзіме, ад якой я часова (хаця і па сваёй волі) адарваны, вылілася аднойчы ў верш, прысвечаны самаму дарагому чалавеку — маёй матулі. Увогуле, я рэдка пішу вершы і нідзе яшчэ іх не друкаваў. Але тут асобы выпадак. Перш за ўсё, мне вельмі хацелася б выказаць бязмерную любоў і ўдзячнасць сваёй маме і прынесці ёй хоць невялічкую радасць, чаго зараз вельмі не хапае. Акрамя таго чамусьці здаецца, што мае пачуцці могуць быць сугучнымі пачуццям іншых людзей, якім па волі лёсу выпала жыць удалечыні ад бацькоў.

**МАТУЛІНА СЭРЦА**

*Раптам радасць адчую светлую,*
*Зноў спытаю сябе — адкуль яна?*
*Ды даўно я ўжо гэта ведаю:*
*Сэрца грэе мяне матуліна.*
*Праз адлегласці невымерныя,*
*Хаця стомленае і шматпакутнае,*
*Дабрыню яно выпраменьвае*
*І любоўю мяне ахутвае,*
*І бароніць ад злога, цёмнага,*
*І адводзіць бяду ўсялякую...*
*І жыву я толькі жыццём яго,*
*І малюся, і Богу дзякую.*
*Ды пакутую іншай часінаю,*
*Што кажу шчырых слоў ёй замала...*
*Я хачу цябе бачыць шчасліваю,*
*Бо я вельмі люблю цябе, Мама!*

З павагай
**Аляксей ЖБАНАЎ.**
г. Масква.

### ЗША

## СЯРОД СВАІХ У АМЕРЫЦЫ

— Глядзі, Антон! Вось і Нью-Йорк! Ух ты, які вялізны, камяністы!

З аэрапорта набіраю нумар тэлефона Сцяпана Міровіча, чую беларускую гаворку і ласкавыя запросіны да сябе. "Але ж я не адзін, нас чацвёра", — кажу я. "Памесцімся!" — чую ў адказ. Калі машына пад'ехала да дома Сцяпана, ён ужо чакаў на ганку. Вельмі шчыра, сардэчна прывіталіся, а ў хаце на стале ўжо стаялі і шкварка, і чарка, і бульбачка па-беларуску. Доўга гамanілі, спявалі матчыны песні.

А запрасіў нас на беларускі фестываль на карысць царквы святой Ефрасінні Полацкай ад імя нашых даўніх знаёмых з горада Саўт-Рывера, штат Нью-Джэрсі, дбайны і нястомны беларус, старшыня Беларуска-амерыканскага цэнтра Жорж Навумчык.

Сабралася шмат аматараў беларускай песні. Прыехаў з Бацькаўшчыны наш фальклорны гурт у складзе Антона Вараб'ёва, Сашы Дроніча і мяне, Міколы Котава.

Ад абеду да цямна танцавалі, спявалі, елі смачныя дранікі, якія тут і смажылі. Яны былі даспадобы ўсім, як сказала Стася Сумскіх, такія смачныя, "аж нос упрысядку скача".

Сцяпан Страпко нарадзіўся на Палессі ў Драгічынскім раёне і ўсё заводзіў песню "Марусенька мая, даражэнька", потым Луіз Колін, дзве Соні Арцюшэнкі, малая і вялікая, Зося Бычкоўская, Стася, Марыся і Іван Азаркі падхапілі песню, якую заспявалі Валодзя Валадковіч, Алег Васанскі, Сцяпан Навумчык з жонкай Марыяй:

"Купалінка, купалінка, —
Цёмная ночка,
А дзе ж твая дочка?.."

Як жа хараша пачуваліся ўсе: бо родныя людзі, родная мова... "Зайграйце, музыкі, польку беларускую", — ласкава папрасілі Міхась і Валя Сенькі, якія адразу пайшлі ў скокі, а за імі і Мікола Бычкоўскі, і Валодзя Літаровіч з Лізай. І такія выкрунтасы выраблялі, што аж дзіву ўсе даваліся: адкуль столькі сілы ды дзе ж вучыліся? "Гэта, — кажуць мне, — яшчэ ад маці, ад бабулі".

Ужо стала цёмна, але ніхто не хацеў дадому, усім было добра і радасна.

Запрашалі наш ансамбль і ў іншыя месцы. Шмат было выступленняў на славутым Брайтан Біч. Мы ігралі на вуліцы, разам з намі танцавалі і прахожыя, нам дзякавалі, з намі знаёміліся і пыталі, адкуль мы. А на наша пытанне, адкуль яны, адказвалі: з Мінска, Бабруйска, Слуцка, Смаргоні, з іншых гарадоў Беларусі і былога Саюза. Рознага ўзросту людзі: моладзь, дарослыя і пажылыя. Сумуюць па Радзіме. Дзякавалі нам, часта выціралі хусцінкай мокрыя вочы не толькі беларусы. Усім спадабаўся беларускі фальклор. Падыходзілі бліжэй, каб абняць, памацаць нашыя вышытыя кашулі, і мы чулі толькі падзяку і просьбы выканаць тую ці іншую песню, танец. І мы задавальнялі пажаданні.

Шчыра дзякуем управе царквы святой Ефрасінні Полацкай, Беларуска-амерыканскаму цэнтру і беларусам Саўт-Рывера. Мы адчувалі сябе сярод родных людзей. Моцы і здароўя, дарагія!

**Мікола КОТАЎ.**

## ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ



● **Раман КАБЯК,** БелТА.

40 гадоў працаваў у школе настаўнікам рускай мовы і літаратуры жыхар Давыд-Гарадка Столінскага раёна Міхаіл Карпушаў. На пенсіі, каб не сумаваць без справы, заняўся лозапляценнем. Калісьці плёў толькі кошыкі, а зараз вырабляе і арыгінальную плеценую мэблю.

НА ЗДЫМКУ: Міхаіл КАРПУШАЎ са сваімі работамі з лазы.

## НАТАТКІ ВЫКЛАДЧЫКА

# ЧАМУ СЛАВАКІ ЦІКАВЯЦЦА БЕЛАРУССЮ?

Пачатак на 1-й стар.

каардынацыі славянскіх дзяржаў, якая была страчана пасля распаду Варшаўскага блока і якой цяпер славакам вельмі бракуе. Адзін прыклад. Нашыя славутыя БелАЗы камплектаваліся рухавікамі славацкай зборкі. Калі гэты ланцужок распаўся, БелАЗ застаўся без жыццёва неабходнай запчасткі, а славацкія заводы — без спажыўца, значная частка іх прадукцыі страціла попыт, і, адпаведна, рэнтабельнасць рэзка знізілася. Гэта, вядома, трохі спрошчаная схема, але дае пэўнае ўяўленне аб існуючай праблеме.

Прыведзеная тут матывацыя адыграла вялікую ролю ў тым, што ў 2000 годзе на філалагічным факультэце Універсітэта імя Мацея Бэла ў Банскай Быстрыцы (Сярэдняя Славакія) адбыўся першы набор студэнтаў на аддзяленне беларусістыкі. Пра гэта, а таксама пра тое, як і дзеля чаго я трапіла ў Славакію, раскажу больш падрабязна.

Паводле універсітэцкага дыплома я спецыяліст па беларускай і рускай мовах і літаратуры. Славацкай моваю пачала цікавіцца яшчэ са школьных гадоў, але мэтанакіравана вывучаць яе давялося толькі ў аспірантуры Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, дзе славацкая мова была ўжо маёй кандыдацкай спецыяльнасцю. Тады ж я пачала ездзіць у Славакію на браціслаўскія летнія моўныя школы, дзе ўпершыню пачула жывую славацкую мову. Потым выкладала славацкую мову на філалагічным факультэце БДУ, працавала перакладчыкам. І тут даведалася, што малады філалагічны факультэт у Банскай Быстрыцы шукае выкладчыка беларускай мовы з веданнем славацкай. Аб'яўлены конкурс Міністэрствам адукацыі. На жаль, з усіх, хто падаў заяўкі на конкурс, не знайшлося ніводнага з валоданнем славацкай мовай, паколькі, як ні смешна гэта гучыць, але я сапраўды была адзіным славакістам у Мінску, калі не наогул на Беларусі. Так атрымалася таму, што пасля распаду СССР цэнтры падрыхтоўкі славакістаў апынуліся за мяжой (у Расіі і на Украіне), а тыя нешматлікія нашы грамадзяне, што туды паступалі раней, дадому па заканчэнні не вярнуліся. Я ж была адзіная славакістка, узгадаваная на тутэйшай глебе з дапамогай славацкіх калегаў. Так што мая кандыдатура аказалася фактычна па-за канкурэнцыяй.

Апынуўшыся ў Банскай Быстрыцы, нават не адразу адчула, што прыехала ў іншую краіну: так цёпла і сардэчна мяне прынялі. Адчуванне было такое, быццам гэтых людзей я ведаю ўжо шмат гадоў. Самае прыемнае, што ва ўсіх усмешкі на тварах (хаця праблем у кожнага хапае), усе гатовы дапамагчы, усё растлумачыць і, куды трэба, за ручку прывесці. У сталоўцы, калі даведаліся, што ў мяне яшчэ няма талонаў на абед, усе пачалі прапаноўваць хто свае талоны на заўтра, хто — падзяліцца ўласным абедам. Але значна горш было тое, што ніхто не змог падзяліцца са мною навучальнай літаратурай, бо яе не было ні ў бібліятэках, ні ў калегаў. Давялося цэлае аддзяленне беларусістыкі адкрываць на ўласным кніжным фондзе, прывезеным з Мінска на ўласным карку — ад слоўнікаў да зборнікаў практыкаванняў. І пісаць па-славацку беларускія падручнікі, бо першы курс ніколі не бачыў літары па-беларуску. Але вялікая справа вартая і больш намаганняў.

Як жа ўзнікла ідэя адкрыць у Славакіі аддзяленне беларусістыкі і ўвогуле жаданне грунтоўна вывучаць беларускую мову? Як асобны навучальны прадмет беларуская мова выкладаецца ў Прэшаўскім універсітэце ва Усходняй Славакіі ўжо тры гады, але як спецыяльнасць — упершыню. Што падсілкоўвала такое жаданне, я ўжо часткова ўспамінала. Да таго ж сучасны перакладчыцкі і педагагічны рынак ужо перанасычаны спецыялістамі па заходніх мовах. Таму многія абітурыенты лічаць, што з рэдкай беларускай мовай яны хутчэй знойдуць работу, хаця б выкладчыкамі славацкай мовы ў беларускіх ВНУ. Галоўнае, пра што я пакуль не згадала: гэта будзе навучанне па двайной спецыяльнасці: першая мова нямецкая, другая — беларуская. Калі не знойдуць прымяненне на Захадзе, павернуцца на Усход..:

А што тычыцца самой ідэі, пра гэта варта сказаць асобна. Пачну з таго, што філалагічны факультэт Універсітэта імя Мацея Бэла ўзнік у 1997 годзе як перакладчыцкі факультэт у адрозненне ад педагагічнага і гуманітарнага факультэтаў, дзе рыхтуюць выкладчыкаў і гуманітарыяў шырокага профілю. І імкнецца выхаваць славацкую перакладчыцкую школу, у прыватнасці, добрых перакладчыкаў мастацкай літаратуры, бо маецца сур'ёзны намер перакласці на славацкую мову, у тым ліку і беларускую, літаратурную класіку. Загадчык кафедры славянскіх моў дацэнт Сяргей Макара, які займае таксама пасаду намесніка дэкана па навукова-даследчай рабоце і міжнародных сувязях, а яшчэ ён вядомы ўкраінскамоўны паэт і член Саюза славацкіх пісьменнікаў, змагаецца за тое, каб на яго кафедры былі прадстаўлены ўсе без выключэння славянскія мовы. Асноўная ідэя — не толькі дасягнуць максімальнай колькасці моў-спецыяльнасцей, але і сабраць на кафедры прадстаўнікоў усіх славянскіх народаў, гэткае мікраскапічнае ўсеславянскае брацтва, каб яны не толькі навучалі студэнтаў сваім мовам, але шырылі свае нацыянальныя культуры і глыбей знаёмілі навучэнцаў з жыццём сваіх родных краін. Уяўляецца, што моладзь не толькі фармальна азнаёміцца з нейкай моўнай сістэмай і прачытае падручнік па гісторыі, але перш за ўсё прасякнецца духам той краіны, з носьбітам культуры якой сутыкаецца. Факультэт выдае і ўласны навуковы часопіс "Філалагічнае рэвю", дзе друкуюцца матэрыялы на розных мовах, у тым ліку і беларускай.

Вялікай праблемай было для мяне складанне тэстаў на ўступныя экзамены. Абітурыенты не толькі ніколі не чулі беларускай мовы, але і літар не ведаюць. Што ж можна тэставаць? Таму я ўключыла ў тэсты пытанні агульнага плана: якой графічнай сістэмай карыстаецца беларуская мова, у якіх краінах за межамі Беларусі жывуць беларусы, і падобныя. На маё вялікае і прыемнае здзіўленне, абітурыенты прыйшлі нядрэнна падкаваныя. Тэст прайшлі на задавальняючым узроўні ўсе. Больш за ўсё мяне зацікавілі і парадавалі іх міні-эсэ — адказы на абавязковае апошняе пытанне ўсіх тэстаў: што вас падштурхнула вывучаць беларускую мову?

Шкада, што нельга пакідаць у сябе гэтыя матэрыялы, — я б цяпер працытавала некаторыя меркаванні. Адзін хлопец пісаў, што зацікавіўся беларускім народам і яго культурай, калі аднойчы паглядзеў па тэлебачанні краязнаўча-пазнавальную перадачу пра Беларусь. Потым пайшоў у бібліятэку, каб адшукаць усю наяўную інфармацыю пра гэтую краіну, яе выдатных прадстаўнікоў і культуру. І таму, калі даведаўся, што ў Банскай Быстрыцы адкрываецца беларусістыка як спецыяльнасць, адразу падаў заяву. Ён паведаміў, што ёсць зборнік вершаў Багдановіча ў перакладзе на славацкую мову. Я расказала яму, што ў Мінску выйшаў зборнік славацкіх паэтаў у перакладзе на беларускую мову.

Многія з абітурыентаў напісалі, што хочуць вывучаць беларускую мову менавіта таму, што нічога пра яе не ведаюць, і яна прыцягвае іх, як таямніца.

Значная частка прыводзіла ўжо згаданыя мною меркаванні пра тое, што не трэба забывацца на братоў-славян, больш да іх імкнуцца і з пашанаю вывучаць іх мову, культуру і гісторыю як неад'емную частку гісторыі свайго народа, каб не быць манкуртамі. А на Захад і так усе лезуць, няма чаго далучацца да агульнага ажыятажу.

Такія думкі выказваюцца ў больш-менш адукаваных колах. Што ж тычыцца простых людзей, размовы якіх я часта чую ў аўтобусе па дарозе на працу, яны ведаюць пра нашую краіну толькі тое, што гавораць у сродках масавай інфармацыі, ці нешта памятаюць са школьных гадоў, калі ва ўсіх славацкіх школах існавала абавязковае вывучэнне рускай мовы і літаратуры, а з імі траплялася і сякая-такая інфармацыя пра іншыя саюзныя рэспублікі.

Але ў асноўнай масе людзі недасведчаныя ўвогуле не адрозніваюць былыя савецкія рэспублікі. Для іх усё, што раней называлася СССР, цяпер аўтаматычна называецца Расіяй, а людзі, якія там жывуць, — рускімі. Часта можна пачуць: "Нейкі рускі з Узбекістана", "Што сабе думалі гэтыя рускія, калі затапіла ўсё іхняе Закарпацце?" і г. д. Так што я, калі складваюцца спрыяльныя абставіны для размовы, тлумачу, што гэта розныя народы са сваімі самабытнымі культурамі і традыцыямі.

ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»





## У СТАРАЖЫТНЫМ ГОРАДЗЕ СЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ ПОЛАЦКУ АДБЫЛОСЯ ЎРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ ПОМНІКА ПРАПАДОБНАЙ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ.





НА ЗДЫМКАХ: помнік прападобнай Ефрасінні Полацкай, аўтар манумента — скульптар Ігар Голубеў; хрэсны ход удзельнікаў урачыстасцей у Полацку; кветкі да помніка; на адкрыцці помніка.

Фота Аляксандра ХІТРОВА

## ЕЎРОПА ШУКАЕ ДУШУ...

Гэтае прызнанне прадстаўніка Евангелічнай царквы Вестфаліі (Германія) Прэзеса Зорга на прэс-канферэнцыі ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры прагучала сімвалічна. Ідэя адзінага еўрапейскага дома цяпер актуальная для ўсіх. У тым ліку і для царквы. Менавіта з мэтай яднання прадстаўнікоў розных канфесій была запрошана Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам прадстаўнічая дэлегацыя з Евангелічнай царквы з Вестфаліі на міжнародную канферэнцыю "Стварэнне сістэмы дыяканічнай работы ва Усходняй Еўропе, партнёрскія сувязі з цэрквамі на Захадзе".

У гэтым форуме прыняў удзел Беларускі Экзархат, Каталіцкі касцёл Беларусі, Саюз евангелічных хрысціян-баптыстаў, лютэранскіх абшчын Беларусі, Рэфарматарскай абшчыны. Адбылася адкрытая дыскусія прадстаўнікоў розных канфесій. Усе знайшлі згоду ў адным: любоў Бога і любоў чалавека з'яўляецца непадзельна цэлым, а дыяканія — гэтае дзейснае слова і служба Быту — красамоўная справа хрысціян у рэальным жыцці. На канферэнцыі ішла зацікаўленая размова аб магчымасцях правядзення спецыяльнай работы і асобных праектаў беларускіх цэркваў і Евангелічнай царквы Вестфаліі.

— Мы пастаянна дбаем пра агульны дом старой матулі Еўропы, якая мае патрэбу ў новым дыханні, — падкрэсліў у сваім выступленні ў канцы сустрэчы Мітрапаліт Філарэт. — А як гэта зрабіць, вядома ж, лепей вырашаць разам.

Святлана ХОРСУН.

КОРАТКА

**ГРОДЗЕНСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЕПАРХІІ СПОЎНІЛАСЯ 100 ГАДОЎ.** Арганізаваная ў 1900 годзе ў сувязі з павелічэннем колькасці прыходаў, Гродзенская праваслаўная епархія з пачаткам першай сусветнай вайны перастала існаваць і была ўзноўлена толькі ў 1992 годзе. Зараз у епархію ўваходзіць каля 90 прыходаў. У Гродне дзейнічае жаночы манастыр, выдаецца газета "Гродзенскія епархіяльныя ведамасці". У епархіі знаходзіцца самая старая ў Беларусі праваслаўная Барысаглебская (Каложская) царква — унікальны помнік храмавага дойлідства XII стагоддзя.

Узначальвае епархію епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Арцемій.

**БЛАГАСЛАВЕННЫ КРАЙ.** Добрае ўражанне пакідае ў душы наведванне адноўленай на пачатку 90-х гадоў Святагеоргіеўскай царквы ў цэнтры вёскі Славацічы. Сёлета прыход гэтай царквы ўзначаліў малады святар.

Вясковаму храму шмат давялося перажыць за сваю 300-гадовую гісторыю, але найбольш пацярпеў ён ад атэістычнага "смерча".

Адноўлена царква на ахвяраванні вернікаў Зэльвеншчыны і калгасаў "Шлях Леніна", "Кастрычнік" і "Новае жыццё".

Сёння, на жаль, у многіх святынях раёна адсутнічаюць рукапісныя гісторыі прыходаў. Між тым яны патрэбныя — у першую чаргу дзеля асэнсавання гістарычнага шляху і духоўнага жыцця грамадства.

Пётр ЖЭБРАК.

НА ШЛЯХУ ДА ВЕРЫ

# ДУХОЎНАСЦЬ СЫХОДЗІЦЬ З НЯБЁСАЎ?

**Апошнія дзесяцігоддзі не спрыялі ўстанаўленню стабільнага жыцця ў нашай краіне: тут і чарнобыльская аварыя, і эканамічныя праблемы, якія прынеслі духоўную спустошанасць. Што ж рабіць нам, беларусам! Якое гледжанне на гэтую сітуацыю ксяндза-магістра Уладзіслава ЗАВАЛЬНЮКА!**

— Духоўнасць нацыі сыходзіць не толькі з нябёсаў. На зямлі абавязкова павінна быць падрыхтавана глеба, каб людзі змаглі жыць прыстойна. А пакуль мы не будзем падрыхтаванымі, пакуль не навучымся сумленна выпраўляць свае памылкі ці адказваць за свае паводзіны, на нас заўсёды будзе падаць "касмічны пыл", такі, напрыклад, як чарнобыльскі.

Няма простага адказу на пытанне: "Што трэба зрабіць, каб у нас было ўсё "о'кей"? Гэта тое самае, як адказаць, што такое кавалак хлеба, які ляжыць на стале. Здаецца, тут няма нічога складанага: пайшоў у краму і набыў. Але колькі падрыхтоўчай працы, колькі намаганняў трэба прыкласці, каб гэты хлеб зрабіць і каб зарабіць грошы на яго пакупку. Таксама і пра веру. Да яе трэба падыходзіць вельмі сур'ёзна, бо гэта адказна.

Пра Біблію кажуць: кніга кніг. Яна ўказвае шлях да веры таму, хто яго шукае. Святар, як лекар, павінен дапамагчы такому чалавеку. І галоўнае — не нашкодзіць, бо ад гэтага залежыць здароўе і духоўны спакой чалавека. Але здараюцца выпадкі, калі падыходзіш да чалавека з душою, з духоўнымі ведамі, з жаданнем дапамагчы, а сапраўднай карысці няма. Бо некаторыя людзі кажуць: гэта не для мяне, гэта замоцна, а гэта навошта? І атрымліваецца, што чалавек сам адвяргае дапамогу. Як у той показцы пра патоп, калі чалавек чакаў дапамогі ад Бога і адмаўляўся зайсці на плыт. Калі ж памёр, выказаў свае прэтэнзіі, а Бог кажа: "Дык я ж табе плыт дасылаў, што ж ты не прыняў маю дапамогу?"

Людзі часта блытаюцца ў сваіх жаданнях і думках. Так што пытанне выздараўлення як адзінага чалавека, так і ўсёй нацыі — вельмі цяжкае і праблематычнае. Да яго трэба падыходзіць вельмі асцярожна, каб чалавек мог зразумець і паверыць, што гэта і ёсць той накірунак, па якім трэба ісці.

**— Ці можна, пайшоўшы ў касцёл, атрымаць дапамогу, і як гэта зрабіць чалавеку, які яшчэ не прыйшоў да веры ці не з'яўляецца штодзённым парафіянінам!**

— Безумоўна, можна, а ў некаторых выпадках нават неабходна. Можна напісаць на адрас Чырвонага касцёла ліст, а можна прыйсці самому. У сілу сваіх магчымасцей мы дапамагаем тым, хто звяртаецца.

**— Шырока вядома, што вам удаецца спалучаць дзейснасць слова і справы. Апошняя навіна: атрымалі дазвол на пабудову дзіцячага аздараўленчага цэнтра...**

— Так, сапраўды, Прэзідэнтам Беларусі падпісаны ўказ аб выдзяленні зямлі для пабудовы дзіцячага цэнтра на 400 месцаў. Зямля выдзелена ў Раўбічах. А зараз ідзе пошук інвестыцый.

І гэта не адзіная праблема, якую ўзяў на свае плечы Касцёл. Наша краіна мае больш праблем, чым можа іх вырашыць. Гэта і жабракі, і пенсіянеры, многія з якіх існуюць па-за мяжой беднасці, і маладыя сем'і, якія толькі пачынаюць жыццё. У адным Мінску больш за 200 000 чалавек, якім патрабуецца дапамога.

Пад апекай Чырвонага касцёла дзве сталоўкі, дзе кормім тых людзей, што жывуць па-за мяжой беднасці. Пры касцёле дзейнічаюць два тэатры — пастычны тэатр аднаго акцёра "Зніч" і тэатр універсітэта культуры "Анёл". Вядуцца заняткі ў нядзельнай школе для дзяцей ад 6 да 18 гадоў...

**— А ці ёсць у вас дарадцы!**

— Вось ужо пяць год у Беларусі працуе Сінод каталіцкай лакальнай (мясцовай) царквы. Справа была распачата пяць год таму. Спачатку працавала спецыяльная камісія, ці каардынацыйная група. І толькі пасля года яе працы адбылася першая сесія.

Нядаўна, 29—30 верасня, прайшло ўрачыстае пасяджэнне Сінода, дзе былі разгледжаны розныя праблемы нашых парафій і Касцёла ў Беларусі ў цэлым.

Мы атрымліваем лісты з пытаннямі, з просьбамі аб дапамозе. Спадзяюся, што ўсім, каму маглі, адказалі ці дапамаглі.

**— Настае момант (і гэта не залежыць ад узросту), калі чалавек задумваецца аб сваім духоўным станаўленні...**

— Перш за ўсё трэба адчуваць адказнасць. Старэйшыя пакаленні духоўна спустошаны, але яны ў гэтым невінаватыя. Ім выпаў час, калі цяжка было знайсці дарогу да Бога. Цяпер дзверы храмаў адчынены. Пан Бог дае шанц выратавання ўсім. Ён любіць усіх. Таму дарослы чалавек павінен садзейнічаць, каб новае пакаленне пазнавала азы духоўнасці як мага раней. Вельмі важна, каб маці, якая носіць пад сэрцам дзіця, знаходзілася ў станоўчай аўры: жыла без цыгарэт, без алкаголю, каб у сям'і не было канфліктаў, стрэсаў і істэрык. З малаком маці маленькі чалавек бярэ не толькі вітаміны і каштоўныя рэчывы, але і свой духоўны патэнцыял. Усё знаходзіцца ва ўзаемасувязі: напрыклад, калі маці слухае класічную музыку ці арган, то і дзіцятка будзе ў спакоі, а калі — музыку з прысмакам наркотыку, што ж застаецца чакаць?

Зараз людзі знаходзяцца ў такой бездані бездухоўнасці, што, каб адрадзіць духоўны код чалавека, трэба адкрыць усе дзверы не толькі храмаў, але і школ, дзіцячых садзікаў і распачаць сапраўдную працу.

Шаноўныя людзі! Няхай Бог вам дапамагае! І гэта менавіта так, калі мы старэмся несці свой крыж, выконваць абавязкі. І няважна, хто — ці гэта свецкі чалавек, ці святар, ці праваслаўны, ці католік, тата ці маці. Усе павінны ведаць, што жыць для сябе — гэта эгаізм. Трэба брацца за справу. Не апускайце рукі. Усё будзе добра з Божай дапамогай.

Гутарыла Юлія ВАНІНА.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### РАСІЯ

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"! Вось ужо пяты год я вучуся ў адной маскоўскай ВНУ. Але бацькі мае, два браты і сястра, а таксама амаль усе сваякі і сябры жывуць на Беларусі. І хаця з цягам часу сум па родных галасах і тварах стаў менш вострым, чым на першым курсе, іх усё роўна моцна не хапае, і ўсё роўна цягне дамоў.

На шчасце, у Маскве я пазнаёміўся з мясцовымі беларусамі, якія аказаліся вельмі шчырымі і добразычлівымі людзьмі. Дзякуючы ім, я маю магчымасць чытаць вашу цікавую і надзвычай патрэбную газету.

Туга па Радзіме, ад якой я часова (хаця і па сваёй волі) адарваны, вылілася аднойчы ў верш, прысвечаны самаму дарагому чалавеку — маёй матулі. Увогуле, я рэдка пішу вершы і нідзе яшчэ іх не друкаваў. Але тут асобы выпадак. Перш за ўсё, мне вельмі хацелася б выказаць бязмерную любоў і ўдзячнасць сваёй маме і прынесці ёй хоць невялічкую радасць, чаго зараз вельмі не хапае. Акрамя таго чамусьці здаецца, што мае пачуцці могуць быць сугучнымі пачуццям іншых людзей, якім па волі лёсу выпала жыць удалечыні ад бацькоў.

#### МАТУЛІНА СЭРЦА

*Раптам радасць адчую*
*светлую,*
*Зноў спытаю сябе —*
*адкуль яна?*
*Ды даўно я ўжо гэта*
*ведаю:*
*Сэрца грэе мяне матуліна.*
*Праз адлегласці*
*невымерныя,*
*Хаця стомленае*
*і шматпакутнае,*
*Дабрыню яно*
*выпраменьвае*
*І любоўю мяне ахутвае,*
*І бароніць ад злога,*
*цёмнага,*
*І адводзіць бяду*
*ўсялякую...*
*І жыву я толькі жыццём*
*яго,*
*І малюся, і Богу дзякую.*
*Ды пакутую іншай часінаю,*
*Што кажу шчырых слоў*
*ёй замала...*
*Я хачу цябе бачыць*
*шчасліваю,*
*Бо я вельмі люблю*
*цябе, Мама!*

З павагай
**Аляксей ЖБАНАЎ.**
г. Масква.

### ЗША

## СЯРОД СВАІХ У АМЕРЫЦЫ

— Глядзі, Антон! Вось і Нью-Йорк! Ух ты, які вялізны, камяністы!

З аэрапорта набіраю нумар тэлефона Сцяпана Міровіча, чую беларускую гаворку і ласкавыя запросіны да сябе. "Але ж я не адзін, нас чацвёра", — кажу я. "Памесцімся!" — чую ў адказ. Калі машына пад'ехала да дома Сцяпана, ён ужо чакаў на ганку. Вельмі шчыра, сардэчна прывіталіся, а ў хаце на стале ўжо стаялі і шкварка, і чарка, і бульбачка па-беларуску. Доўга гаманілі, спявалі матчыны песні.

А запрасіў нас на беларускі фестываль на карысць царквы святой Ефрасінні Полацкай ад імя нашых даўніх знаёмых з горада Саўт-Рывера, штат Нью-Джэрсі, дбайны і нястомны беларус, старшыня Беларуска-амерыканскага цэнтра Жорж Навумчык.

Сабралася шмат аматараў беларускай песні. Прыехаў з Бацькаўшчыны наш фальклорны гурт у складзе Антона Вараб'ёва, Сашы Дроніча і мяне, Міколы Котава.

Ад абеду да цямна танцавалі, спявалі, елі смачныя дранікі, якія тут і смажылі. Яны былі даспадобы ўсім, як сказала Стася Сумскіх, такія смачныя, "аж нос упрысядку скача".

Сцяпан Страпко нарадзіўся на Палессі ў Драгічынскім раёне і ўсё заводзіў песню "Марусенька мая, даражэнька", потым Луіз Колін, дзве Соні Арцюшэнкі, малая і вялікая, Зося Бычкоўская, Стася, Марыся і Іван Азаркі падхапілі песню, якую заспявалі Валодзя Валадковіч, Алег Васанскі, Сцяпан Навумчык з жонкай Марыяй:

"Купалінка, купалінка, —
Цёмная ночка,
А дзе ж твая дочка?.."

Як жа хораша пачуваліся ўсе: бо родныя людзі, родная мова... "Зайграйце, музыкі, польку беларускую", — ласкава папрасілі Міхась і Валя Сенькі, якія адразу пайшлі ў скокі, а за імі і Мікола Бычкоўскі, і Валодзя Літаровіч з Лізай. І такія выкрунтасы выраблялі, што аж дзіву ўсе даваліся: адкуль столькі сілы ды дзе ж вучыліся? "Гэта, — кажуць мне, — яшчэ ад маці, ад бабулі".

Ужо стала цёмна, але ніхто не хацеў дадому, усім было добра і радасна.

Запрашалі наш ансамбль і ў іншыя месцы. Шмат было выступленняў на славутым Брайтан Біч. Мы ігралі на вуліцы, разам з намі танцавалі і прахожыя, нам дзякавалі, з намі знаёміліся і пыталі, адкуль мы. А на наша пытанне, адкуль яны, адказвалі: з Мінска, Бабруйска, Слуцка, Смаргоні, з іншых гарадоў Беларусі і былога Саюза. Рознага ўзросту людзі: моладзь, дарослыя і пажылыя. Сумуюць па Радзіме. Дзякавалі нам, часта выціралі хусцінкай мокрыя вочы не толькі беларусы. Усім спадабаўся беларускі фальклор. Падыходзілі бліжэй, каб абняць, памацаць нашыя вышытыя кашулі, і мы чулі толькі падзяку і просьбы выканаць тую ці іншую песню, танец. І мы задавальнялі пажаданні.

Шчыра дзякуем управе царквы святой Ефрасінні Полацкай, Беларуска-амерыканскаму цэнтру і беларусам Саўт-Рывера. Мы адчувалі сябе сярод родных людзей. Моцы і здароўя, дарагія!

**Мікола КОТАЎ.**

## ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ



● **Раман КАБЯК**, БелТА.

40 гадоў працаваў у школе настаўнікам рускай мовы і літаратуры жыхар Давыд-Гарадка Столінскага раёна Міхаіл Карпушаў. На пенсіі, каб не сумаваць без справы, заняўся лозапляценнем. Калісьці плёў толькі кошыкі, а зараз вырабляе і арыгінальную плеценую мэблю.

НА ЗДЫМКУ: Міхаіл КАРПУШАЎ са сваімі работамі з лазы.

## НАТАТКІ ВЫКЛАДЧЫКА

# ЧАМУ СЛАВАКІ ЦІКАВЯЦЦА БЕЛАРУССЮ?

Пачатак на 1-й стар.

каардынацыі славянскіх дзяржаў, якая была страчана пасля распаду Варшаўскага блока і якой цяпер славакам вельмі бракуе. Адзін прыклад. Нашыя славутыя БелАЗы камплектаваліся рухавікамі славацкай зборкі. Калі гэты ланцужок распаўся, БелАЗ застаўся без жыццёва неабходнай запчасткі, а славацкія заводы — без спажыўца, значная частка іх прадукцыі страціла попыт, і, адпаведна, рэнтабельнасць рэзка знізілася. Гэта, вядома, трохі спрошчаная схема, але дае пэўнае ўяўленне аб існуючай прабламе.

Прыведзеная тут матывацыя адыграла вялікую ролю ў тым, што ў 2000 годзе на філалагічным факультэце Універсітэта імя Мацея Бэла ў Банскай Быстрыцы (Сярэдняя Славакія) адбыўся першы набор студэнтаў на аддзяленне беларусістыкі. Пра гэта, а таксама пра тое, як і дзеля чаго я трапіла ў Славакію, раскажу больш падрабязна.

Паводле універсітэцкага дыплома я спецыяліст па беларускай і рускай мовах і літаратуры. Славацкай моваю пачала цікавіцца яшчэ са школьных гадоў, але мэтанакіравана вывучаць яе давялося толькі ў аспірантуры Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, дзе славацкая мова была ўжо маёй кандыдацкай спецыяльнасцю. Тады ж я пачала ездзіць у Славакію на браціслаўскія летнія моўныя школы, дзе ўпершыню пачула жывую славацкую мову. Потым выкладала славацкую мову на філалагічным факультэце БДУ, працавала перакладчыкам. І тут даведалася, што малады філалагічны факультэт у Банскай Быстрыцы шукае выкладчыка беларускай мовы з веданнем славацкай. Аб'яўлены конкурс Міністэрствам адукацыі. На жаль, з усіх, хто падаў заяўкі на конкурс, не знайшлося ніводнага з валоданнем славацкай мовай, паколькі, як ні смешна гэта гучыць, але я сапраўды была адзіным славакістам у Мінску, калі не наогул на Беларусі. Так атрымалася таму, што пасля распаду СССР цэнтры падрыхтоўкі славакістаў апынуліся за мяжой (у Расіі і на Украіне), а тыя нешматлікія нашы грамадзяне, што туды паступалі раней, дадому па заканчэнні не вярнуліся. Я ж была адзіная славакістка, узгадаваная на тутэйшай глебе з дапамогай славацкіх калегаў. Так што мая кандыдатура аказалася фактычна па-за канкурэнцыяй.

Апынуўшыся ў Банскай Быстрыцы, нават не адразу адчула, што прыехала ў іншую краіну: так цёпла і сардэчна мяне прынялі. Адчуванне было такое, быццам гэтых людзей я ведаю ўжо шмат гадоў. Самае прыемнае, што ва ўсіх усмешкі на тварах (хаця праблем у кожнага хапае), усе гатовы дапамагчы, усё растлумачыць і, куды трэба, за ручку прывесці. У сталоўцы, калі даведаліся, што ў мяне яшчэ няма талонаў на абед, усе пачалі прапаноўваць хто свае талоны на заўтра, хто — падзяліцца ўласным абедам. Але значна горш было тое, што ніхто не змог падзяліцца са мною навучальнай літаратурай, бо яе не было ні ў бібліятэках, ні ў калегаў. Давялося цэлае аддзяленне беларусістыкі адкрываць на ўласным кніжным фондзе, прывезеным з Мінска на ўласным карку — ад слоўнікаў да зборнікаў практыкаванняў. І пісаць па-славацку беларускія падручнікі, бо першы курс ніколі не бачыў літары па-беларуску. Але вялікая справа вартая і большых намаганняў.

Як жа ўзнікла ідэя адкрыць у Славакіі аддзяленне беларусістыкі і ўвогуле жаданне грунтоўна вывучаць беларускую мову? Як асобны навучальны прадмет беларуская мова выкладаецца ў Прэшаўскім універсітэце ва Усходняй Славакіі ўжо тры гады, але як спецыяльнасць — упершыню. Што падсілкоўвала такое жаданне, я ўжо часткова ўспаміна. Да таго ж сучасны перакладчыцкі і педагагічны рынак ужо перанасычаны спецыялістамі па заходніх мовах. Таму многія абітурыенты лічаць, што з рэдкай беларускай мовай яны хутчэй знойдуць работу, хаця б выкладчыкамі славацкай мовы ў беларускіх ВНУ. Галоўнае, пра што я пакуль не згадала: гэта будзе навучанне па двайной спецыяльнасці: першая мова нямецкая, другая — беларуская. Калі не знойдуць прымяненне на Захадзе, павернуцца на Усход..:

А што тычыцца самой ідэі, пра гэта варта сказаць асобна. Пачну з таго, што філалагічны факультэт Універсітэта імя Мацея Бэла ўзнік у 1997 годзе як перакладчыцкі факультэт у адрозненне ад педагагічнага і гуманітарнага факультэтаў, дзе рыхтуюць выкладчыкаў і гуманітарыяў шырокага профілю. І імкнецца выхаваць славацкую перакладчыцкую школу, у прыватнасці, добрых перакладчыкаў мастацкай літаратуры, бо маецца сур'ёзны намер перакласці на славацкую мову, у тым ліку і беларускую, літаратурную класіку. Загадчык кафедры славянскіх моў дацэнт Сяргей Макара, які займае таксама пасаду намесніка дэкана па навукова-даследчай рабоце і міжнародных сувязях, а яшчэ ён вядомы ўкраінскамоўны паэт і член Саюза славацкіх пісьменнікаў, змагаецца за тое, каб на яго кафедры былі прадстаўлены ўсе без выключэння славянскія мовы. Асноўная ідэя — не толькі дасягнуць максімальнай колькасці моў-спецыяльнасцей, але і сабраць на кафедры прадстаўнікоў усіх славянскіх народаў, гэткае мікраскапічнае ўсеславянскае брацтва, каб яны не толькі навучалі студэнтаў сваім мовам, але шырылі свае нацыянальныя культуры і глыбей знаёмілі навучэнцаў з жыццём сваіх родных краін. Уяўляецца, што моладзь не толькі фармальна азнаёміцца з нейкай моўнай сістэмай і прачытае падручнік па гісторыі, але перш за ўсё прасякнецца духам той краіны, з носьбітам культуры якой сутыкаецца. Факультэт выдае і ўласны навуковы часопіс "Філалагічнае рэвю", дзе друкуюцца матэрыялы на розных мовах, у тым ліку і беларускай.

Вялікай праблемай было для мяне складанне тэстаў на ўступныя экзамены. Абітурыенты не толькі ніколі не чулі беларускай мовы, але і літар не ведаюць. Што ж можна тэставаць? Таму я ўключыла ў тэсты пытанні агульнага плана: якой графічнай сістэмай карыстаецца беларуская мова, у якіх краінах за межамі Беларусі жывуць беларусы, і падобныя. На маё вялікае і прыемнае здзіўленне, абітурыенты прыйшлі нядрэнна падкаваныя. Тэст прайшлі на задавальняючым узроўні ўсе. Больш за ўсё мяне зацікавілі і парадавалі іх міні-эсэ — адказы на абавязковае апошняе пытанне ўсіх тэстаў: што вас падштурхнула вывучаць беларускую мову?

Шкада, што нельга пакідаць у сябе гэтыя матэрыялы, — я б цяпер працытавала некаторыя меркаванні. Адзін хлопец пісаў, што зацікавіўся беларускім народам і яго культурай, калі аднойчы паглядзеў па тэлебачанні краязнаўча-пазнавальную перадачу пра Беларусь. Потым пайшоў у бібліятэку, каб адшукаць усю наяўную інфармацыю пра гэтую краіну, яе выдатных прадстаўнікоў і культуру. І таму, калі даведаўся, што ў Банскай Быстрыцы адкрываецца беларусістыка як спецыяльнасць, адразу падаў заяву. Ён паведаміў, што ёсць зборнік вершаў Багдановіча ў перакладзе на славацкую мову. Я расказала яму, што ў Мінску выйшаў зборнік славацкіх паэтаў у перакладзе на беларускую мову.

Многія з абітурыентаў напісалі, што хочуць вывучаць беларускую мову менавіта таму, што нічога пра яе не ведаюць, і яна прыцягвае іх, як таямніца.

Значная частка прыводзіла ўжо згаданыя мною меркаванні пра тое, што не трэба забывацца на братоў-славян, больш да іх імкнуцца і з пашанаю вывучаць іх мову, культуру і гісторыю як неад'емную частку гісторыі свайго народа, каб не быць манкуртамі. А на Захад і так усе лезуць, няма чаго далучацца да агульнага ажыятажу.

Такія думкі выказваюцца ў больш-менш адукаваных колах. Што ж тычыцца простых людзей, размовы якіх я часта чую ў аўтобусе па дарозе на працу, яны ведаюць пра нашую краіну толькі тое, што гавораць у сродках масавай інфармацыі, ці нешта памятаюць са школьных гадоў, калі ва ўсіх славацкіх школах існавала абавязковае вывучэнне рускай мовы і літаратуры, а з імі траплялася і сякая-такая інфармацыя пра іншыя саюзныя рэспублікі.

Але ў асноўнай масе людзі недасведчаныя ўвогуле не адрозніваюць былыя савецкія рэспублікі. Для іх усё, што раней называлася СССР, цяпер аўтаматычна называецца Расіяй, а людзі, якія там жывуць, — рускімі. Часта можна пачуць: "Нейкі рускі з Узбекістана", "Што сабе думалі гэтыя рускія, калі затапіла ўсё іхняе Закарпацце?" і г. д. Так што я, калі складваюцца спрыяльныя абставіны для размовы, тлумачу, што гэта розныя народы са сваімі самабытнымі культурамі і традыцыямі.



ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

# АПОШНІ КАНТРАКТ

## АПАВЯДАННЕ

Глыбокая шчырасць выклікае калі не супольнае разуменне, дык, прынамсі, прыхільнасць. Арыгінальнасць майго, ніжэй пададзенага тут паведамлення турбуе мяне менш, чым яго поўная, абсалютная адсутнасць. І калі хочаце, можаце лічыць мой гэты распавед міні-дэтэктывам.

Мне трыццаць трэці год. Маё імя вам нічога не скажа. Тое, чым я займаюся... акрэслім так: мая прафесія, як і ва ўсіх вас, — мысліць. А маё хобі — драўніна. Мне падабалася з гэтага матэрыялу вырабляць розных фантастычных істотак. З тых, хто бачыў гэтыя забаўкі, адны гаварылі, што мае штучкі — як жывыя, а іншыя — што ў жыцці такіх не бывае. (Шалёная, раз'ятраная сіла, якая стрымлівае ўсё існае ў адзіным цэлым, досыць часта праяўляецца і сляпой, і жорсткай: ты можаш паставіць усё на кон, вывернуць вантробы вонкі, перастаць есці, піць, спаць, застрэліцца, павесіцца і нарадзіцца зноў, даводзячы тое, што табе здаецца адзіна правільным і вартым, святым, але так і застацца ў глухаце непачутасці, а таму можа быць, хто, калі наконт чаго і што сказаў або гаворыць, — не так ужо і важна).

Тым даўнім летам таго далёкага года я быў запрошаны ў Вену на міжнародны сімпозіум па метадалогіі навукі. Насамрэч я адправіўся туды, каб падпісаць (не падпісаць) свой кантракт з адной фірмай, якая і аформіла мне запрашэнне на сімпозіум. Фірма спецыялізавалася на нечым накшталт сувеніраў з усходнеславянскіх краін. З Талянам Бясконцым, яе ўладальнікам, мы калісьці пэўны нядоўгі час працавалі на адным шырока вядомым у айчыне дрэваапрацоўчым прадпрыемстве. Калі, дарэчы, ведаць толк у бізнесе азначае ўмець трымаць патрэбную інфармацыю пры сабе і не раскідвацца ёю направа і налева, дык справы ў фірмы ішлі, напэўна, як належыць: прывезеныя Талянам валёнкі і ватоўкі, асабліва ў раёне Альпаў, размяталіся ў адзін момант. Вырабляць матрошак адзін, без нічыёй дапамогі і цалкам самастойна я мог вагонамі. Кантракт быў разлічаны на чатыры гады і патрабаваў ад мяне трошкі большага: ведаючы свае здольнасці, я мусіў працаваць па пятнаццаць гадзін на суткі без адпачынку і перапынкаў на абед. Гэта мяне крыху турбавала, але не палохала. Кантракт даваў мне магчымасць набыць кватэру, мэблю, купіць машыну і пакласці пэўную суму на працэнты.

Тэма сімпозіума, абстрактная і абагульненая, таксама была "маёй" тэмай. Даце яго правядзення папярэднічалі паўгода засяроджанай, актыўнай перапіскі з арганізатарамі. Запрошаны, свой адпаведны ўдзел (мінімум — прачытаць лекцыю і падаць свой голас у дыскусіях) я мусіў у ім узяць. Наіўна было б думаць, што тым часам чакалася вырашэнне ўсіх кардынальных праблем чалавецтва, але хіба, далібог, усе навукоўскія зборы ладзяцца з гэтай мэтаю!

Першы дзень была прадугледжана экскурсія, і я, сапраўды, быў задаволены спатканнем з горадам, які ведаў як свае пяць пальцаў. На другі дзень, пасля ўрачыстага адкрыцця і ўступнай лекцыі, падчас паўзы, на каву да мяне падышоў худаваты маладзён са стужкай нейкай хахляцкай расфарбоўкі на грудзях замест гальштука і спытаў:

— Даруйце, гэта вы спадар Бацька?

Я кіўнуў:

— Вы не памыліліся. Гэта я.

— Анатоль Сымонавіч прасіў прывітаць вас і перапрашае, што не змог прыйсці асабіста.

— Як ён там сам?

— Ён прасіў перадаць вам вось гэта, — дзяцюк адкрыў "дыпламат" і дастаў тры аркушы паперы з тэкстам. — Колькі часу працягнецца сімпозіум? Больш тыдня?

— Дзесяць дзён.

— Анатоль Сымонавіч прасіў не спяшацца і сказаў, што ўсе гэтыя дні — у вашым распараджэнні... Калі што якое, тэлефоны, факс — у нізе бланкаў.

Я зноўку кіўнуў пасланцу. Я ведаў, што гэта былі за паперы.

З працоўнай на мерапрыемстве англійскай мовай я не меў поўнай гармоніі, любая гаварыльня з працягам і неадчэпна педагагічнай атмасферай наганяла на мяне неадольную нудоту. Я праслухаў яшчэ адно выступленне (грунтоўнае і неабмежаванае разважанне італьянца наконт "ляза Акама") і пасля абеду вырашыў падацца да сябе ў гатэль крыху прылегчы, разлічваючы вярнуцца потым якраз на вячэру — нашае сталаванне было цалкам на сумленні арганізатараў, дый сваіх грошай у мяне амаль не было. Я абудзіўся ў самы час, але сон перамог мяне. Калі я прачнуўся зноў, ісці ўжо было позна. Аўстрыйскі хлеб і сваё, крэўна-беларускае сала, абачліва ўзятае ў дарогу, мяне падтрымалі і выручылі. Я пагартаў праграму: ісці шукаць удзельнікаў сімпозіума на нейкім прыёме ў якімсьці там дзярждэпартаменце не было ніякага жадання. Увесь вечар быў яшчэ наперадзе. І я вырашыў адправіцца развеяцца ў адзін піўны бар ("МІМ") па Юніштрасэ, дзе некалі, як я ведаў, збіраліся розныя артысты, мастакі і іншая каляба-гемная публіка. (Дый сала, пагадзіцеся, таксама трэба нечым запіваць).

Злёгку закурадымленая, але балаганная зала была амаль поўная. Дужы, круглы бармэн з пукатымі вачыма і мангольскімі вусамі дадолу адкаркаваў гліняную бутлю таннага цёмнага піва, выліў яе поўнасцю ў куфаль — і пена паднялася да самых краёў. Заставацца ля стойкі не хацелася, і я ўзяў сваё піва, выглядаючы вольнае месца. Такіх было два або тры. Насупраць аднаго з іх сядзеў чалавек з ужо расстаўленымі шахматамі, і я не паспеў нічога спытаць.

— Сядай, — звярнуўся ён да мяне па-расейску, — згуляем. Усё роўна рабіць няма чаго.

— Зараз, — я пагадзіўся, паставіў куфаль на стол, прысеў і адпіў піва.

— Мяне завуць Палікарп, — адрэкамендаваўся чалавек. — Наогул, я — музыкантам, — і спахапіўся: — А ты ўмееш гуляць у шахматы?

Мой раман з гэтай гульнёй быў і палкім, і стандартным: я калісьці праседжваў за дошкай днямі, месяцамі і гадамі, здабываючы прызы, разрады, перамогі, спрабуючы, бывала, здагнаць сэнсу ў чалавечых перамяшчэннях наўкол мяне, нібыта то былі б не людзі, а фярзі, сланы ці коні, і мой дзед паліў маю гульню разы тры. Пасля войска выгляд ссунутых па фазе людзей, што гадзінамі ў нямым здранцвенні віселі над якімісь фішкамі, тым часам як у свеце штосекундна, штоімгненна вырашаліся балючыя праблемы жыцця і смерці, пачаў здавацца мне нічым не апраўданым і дзікім.

— Даводзілася, — сказаў я. — Мяне завуць Карлам.

Палікарп павярнуў да мяне белы колер і сказаў:

— Хадзі.

Не ведаю, як наконт сцвярджэння Сведэнборга, што, памершы, чалавек зусім гэтага не заўважае і працягвае жыць у такім жа самым свеце (раі, пекле) сярод такіх самых людзей (анёлаў, чарцей), у такім жа самым Ліверпулі з яго "легендарнай чацвёркай" і партовымі рабацягамі, якія крыюць усіх спрэс сваімі "факамі" направа і налева, у такім жа самым Стакгольме, па якім цэлы дзень носяцца адзінокія па-стрынбергаўску людзі, каб вечарам сабрацца вакол агульнасацыялістычных лядоўняў сем'ямі, але тагасветная мода, напэўна, для ўсіх аднолькавая: аблічча Ісуса Хрыста з іконы і вобраз Луі Сайфера, д'ябла з фільма Алана Паркера "Сэрца Анёла" адрозніваюцца толькі наяўнасцю (адсутнасцю) німба.

У майго партнёра была смуглявая скура твару, доўгія, цёмныя валасы, чорныя вочы, ссутуленая пастава, стомлены голас. Пасярэдзіне першай партыі, развіўшы фігуры, я запаліў цыгарэту і адсунуў куфаль — упершыню ў жыцці я гуляў у шахматы нападдатку.

Праз колькі хадоў я метадычна пракруціў "млын", паставіў мат, азірнуўся — і заўважыў, што ці не ўсе ўдзельнікі сімпозіума ўжо сядзяць хто дзе па розных кутках у гэтым жа самым бары. Прыгожы твар дзяўчыны-эстонкі іскрыўся ва ўсмешцы аўстрыяку-абарыгену. Упершыню ў жыцці я бачыў, каб на і без таго паглядным тварах самым (да геніяльнасці) прыгожым былі звычайныя, простыя акуляры ў металічнай аправе.

— Не-е, — сказаў Палікарп, забіраючы сабе белыя фігуры, — нешта я сёння не ў настроі...

Праходзячы міма, нарвежка затрымалася ля нашага століка і запыталася:

— Можна, я буду вас фатаграфаваць?

Я пацiснуў плячом:

— Калі ласка.

Яна зрабіла пару здымкаў і раптам прысела на крэсла насупраць:

— Паслухай, — сказала яна, — дык ты ж, здаецца, на нашым сімпозіуме!

Я моўчкі паклаў перад ёю сваю картку.

— У-у, — сказаў мой партнёр, — дык ты філосаф!

— Магістр... Так, прынамсі, стаіць у маіх вокладках.

— А цяпер ты раскажы пра сябе, — па-французску папрасіла нарвежка, і мой партнёр гэтак жа па-французску адпавёў ёй, што, наогул, ён музыкант, скрыпач, што любіць ён музыку Вагнера, што, наогул, ён з Кіпра, але, наогул, яго кожны вечар можна знайсці ў гэтым самым шынку. Пафатаграфаваўшы, нарвежка зноў прысела за стол і стала моўчкі назіраць за гульнёй. Пасля яе адыходу рослы балгарын, нумар якога ў гатэлі быў побач з маім, абапёрся моцнымі рукамі скрай вугла і пацікавіўся:

— Ты яшчэ доўга будзеш тут?

— Пасяджу яшчэ, — адказаў я і запытаўся: — А што?

— Растлумач мне дарогу назад...

Я расказаў, як будзе прасцей за ўсё знайсці гатэль. Балгарын падзякаваў і памахаў рукой... Чырвоны, асалавелы ад піва твар тубыльца другі раз павіснуў над дошкай і зараваў:

— Я гуляцьму з пераможцам!.. Ы-ы, я гуляцьму!

— Гэтае пытанне ўжо да гаспадара шахмат, — параіў я і зірнуў на кіпрыёта.

Музыка маўчаў.

Не, мой праціўнік быў ніякі не гулец. Абазнанасць у тэорыі ішла яму на шкоду, а давядзенне гульні да самага мату выдавала яго з галавой. Правёўшы першую партыю ўсур'ёз і разведаўшы сілу партнёра, кожную новую партыю я не гуляў, а забаўляўся, стараючыся правесці яе па-іншаму, як быццам яе гуляў не я, а нейкі іншы майстра... Старамодная сістэма Стэйніца... Нудная школа Бацьвінніка... Навука Рэці... Пралічаны авантурызм Алёхіна... У шостай партыі, у абсалютна выйгрышнай сітуацыі, мая пешка ў самым цэнтры раптам сама па сабе павалілася набок і, стукнуўшыся, пакацілася па дошцы. Я хутка зірнуў на партнёра і перахапіў яго кароткі, спалоханы позірк — выкарыстоўваць псеўдадэманізм Таля я й не думаў!

Я азірнуўся наўкол. Не было нікога побач, хто б мог зачапіцца за столік. Выпівохі сядзелі ў самім шынку, на вуліцы і ў дворыку. То была цёплая ноч, самая сярэдзіна лета, калі, здавалася, не лёгкі павеў, а сама ўладная Любасць лашчыць цябе сваім мяккім подыхам... Але ніякага ветру не было!

Крыху пасядзеўшы над пазіцыяй, не падняўшы і не кранаючыся пешкі, я сказаў кіпрыёту:

— Прапаную нічыю.

Той зноў гэтак жа коратка зірнуў на мяне, потым яшчэ раз і сказаў, што яму трэба ў прыбіральню.

Калі ён вярнуўся за столік, дужы бармэн з мангольскімі вусамі долу два разы патушыў і запаліў святло. Гульня разладзілася. Музыка пазбіраў фігуркі і панёс іх да стойкі. Я кіўнуў на развітанне і ў поўнай адзіноце падаўся да гатэля.

Ішла другая гадзіна ночы. Перад светлавой рэкламай дзяўчынка-матылёк адштурхнулася ад сцяны і, зусім як на радзіме, папыталася, ці ёсць у мяне цыгарэты.

— Ёсць, але толькі мужчынскія, — адказаў я, маючы на ўвазе айчынны "Памір".

— Нічога, — сказала яна.

І мы з ёю цудоўна паразумеліся на мове Гётэ і Шылера.

На той час я ўжо амаль што страціў сваю жонку, якую вельмі кахаў, сваіх дзяцей, якіх любіў не менш, свой дом — і ноч з вулічнай дзяўчынкай магла б стаць наскрозь цікавай і запамінальнай, аднак мне больш спадабалася думка, што аднолькавае адчуванне чарадзейства той цёплай летняй ночы — ужо глыбока дастатковае для нас абодвух.

Я падняўся ў нумар і заваліўся спаць. Але ноч не давала сну. Дапушчэнне, што пешка павалілася цалкам самастойна, самахоцькі і разлічана-свядома, не праходзіла... "Элементы и начала... Элементы и начала — и просты, и глубоки..." Мат варожаму каралю, развязка складана закручанага дэтэктыва касуюць усе папярэднія сэнсагульні, і не застаецца ніякіх уражанняў. Праблема свядомай фігуркі заставалася... Перарастаць "дзіцячыя пытанні" — не значыць здабываць адказы на іх. Тое, у чым сэнс жыцця, кожны вырашае для сябе індывідуальна і прыватна. Але чаму мы не пытаемся пра сэнс жыцця 35-й марквіны ў другім ад краю радзе на агародзе ў Сцёпчыхі? І, яшчэ больш, чаму мы яго не ведаем!.. У чым сэнс запытвання пра сэнс жыцця?.. Злічонасць юнгаўскіх архетыпаў мусіць утвараць замкнёнае кола, за кандыцыю якога няма выйсця... Паводле хрысціянства, жыццё — толькі шахматная гульня Дабра і Зла. (Страшны Дзень падыме мёртвых, Бог з Д'яблам абмяняюцца фігурамі, і — пачнецца новая партыя. Рай — направа, пекла — налева. Для любых). Заставацца на дошцы, напэўна ж, цікавей... Розум дадзены чалавеку ўсяго толькі для абслугоўвання патрэбаў арганізма і працягу роду. Сэнс запытвання пра сэнс жыцця — у загайстрэнні розуму дзеля яго найлацвейшай работы... Літанні чалавекаў да здзяйсняльнай машыны жаданняў (Бога) — просьбы пешак стаць фярзямі... За прыгажосцю — усяго толькі найбольш прыдатныя ўмовы для функцыянавання. Функцыянавання дзеля чаго?.. Любы больш-менш вопытны шахматыст ведае, што матэрыяльная перавага ўсяго ў адну пешку пры аб'ектыўнай гульні (гульні з роўным па сілах сапернікам) — ужо, лічы, дастатковая для перамогі. Скончыць жыццё самагубствам — значыць, падставіць пад удар лёс (гісторыю) усяго чалавецтва... САТАРЫ Дзэна можа закаціць пад стол, за батарэю, куды не далезці рукой, у пыл і павуціну трухлявення, але яно не касуе ні Правілаў Гульні, ні самой дошкі... Як майстры ўсходніх адзінаборстваў вызнаюць філасофію міралюбства і стрыманасці, так і для таго каб, сапраўды, жыць паводле запаветаў Хрыста, як Ён таго патрабаваў ад людзей, чалавек павінен быць здольным на ўсе тыя цуды, якія тварыў Ісус. (Сэнсэй Ісус! Сэнсэй Ісус!.. Сэнсэй Ісусе!) "Элементы и начала... Элементы и начала — И просты, и глубоки: Лес, разбитый на кварталы, Ад, разбитый на круги," — гэтыя радкі, прысвечаныя Дантэ, напісаў калісьці мой знаёмы, але дажыць да 35-ці гадоў яму не было дадзена: невылечна хворы, ён дакладна ведаў, што памрэ ў 22, і паэзія для яго стала адзіным адхланнем, самаапраўданнем і мемарыялам, толькі вось вершы ў яго выходзілі слабенькімі і недалёкімі; жыццё — жорсткае!.. Але іншы (мастак) нявыдуманай знерваванасцю ад свайго вялікага жадання стаць прызнаным і масцітым (геніем! геніем!) і што ніхто не звяртае ўвагі на яго мазню шантажыраваў Мастацтва — і амаль дабіўся свайго... У 2050 годзе людзей будзе ад 7,5 да 10,5 мільярда, прытым што Зямля можа пракарміць не больш 9-ці... Ян, Інь, сярэдняе звяно Дэн, якое лёгка таясаміцца з Эрасам. І — Варожы Пачатак! Воля Мужчыны — прадухіліць яго, роля Жанчыны — цэнтральная: не шахматная каралева, а кароль. Тыя, хто адказвае (таўталагічна-нецікава), быццам сэнс жыцця — у каханні або, маўляў, у тым, каб проста жыць, бліжэй за ўсё да праўды: жыццё — не больш як толькі шалёны, безаглядны працэс рэпрадуктавання жывых арганізмаў (бялковых целаў). І на гэтай прамой (а значыць: бязглуздай) бясконцасці дэдукцыя спынялася і думка ніякавела: за той бясконцасцю (бы за развязкай дэтэктыва і за матам) сэнсу не было... Як я ні біўся меркаваннямі, сапраўды свядомая (як і звычайная) пешка ніяк не магла зваліцца з дошкі.

Назаўтра днём я падпісаў свой кантракт. Свой апошні кантракт.

Цёмныя хмары засцілаюць нізкае неба. Я расціскаю пальцы — і на маёй далоні з'яўляецца чорная пешка. Там, за маімі пальцамі, падвойным шклом і вышынёй балкона, сноўдаюць людзі, гудзяць, равуць машыны, вісяць правады — і я ведаю (альбо мне гэта здаецца): у свеце ёсць адна істота (рэч? аб'ект? праява? асоба?), якая хоць нешта разумее ў гэтым жыцці...

Іншым, асабліва сонечным і светлым днём я яшчэ веру, што магу нешта вырабіць — і я раблю яшчэ адну матрошку. Адну. Адну за ўвесь дзень.

**Андрэй ГУЦАЎ**

ДЭБЮТ

# ГРАФІЦІ Антона КАРКАНІЦЫ

***МІНСКІ ВАСЬМІКЛАСНІК Антон КАРКАНІЦА МАЛЮЕ ГРАФІЦІ. МНЕ САМОМУ БЫЛО ВЕЛЬМІ ЦІКАВА ДАВЕДАЦЦА, ШТО ГЭТА ТАКОЕ. СПАЧАТКУ ЗАЗІРНУЎ У СЛОЎНІК. ТАМ ТЛУМАЧЫЦЦА, ШТО ГРАФІЦІ — МАЛЮНКІ НА ПАПЕРЫ АБО СЦЕНАХ, ЯКІЯ ВЫКОНВАЮЦЦА Ў АРЫГІНАЛЬНЫМ СТЫЛІ — ЗАШЫФРАВАНЫЯ ЛІТАРЫ. А ЦЯПЕР — РАЗМОВА З Антонам.***



**— З чаго пачалося тваё захапленне графіці?**

— Адзін з сяброў запрасіў мяне паглядзець з ім незвычайныя малюнкі на ўскрайку Мінска. Там уздоўж чыгункі — гаражы, на якіх я і пабачыў упершыню тое, што так моцна захапіла.

**— Што змянілася ў тваім жыцці пасля таго, як ты пачаў маляваць графіці?**

— Я пачаў займацца "брэйк-дансам", таму што графіці, "брэйк-данс" і "рэп-музыка" — тры кіты, на якіх трымаецца ўся "хіп-хоп" культура. У мяне з'явілася шмат новых сяброў і знаёмых, якія таксама захапляюцца "хіп-хопам". *(Даведка: "хіп-хоп" — маладзёжны рух другой паловы XX стагоддзя, які грунтуецца на максімалізме ва ўсім).*

**— Ці ёсць у цябе іншыя захапленні?**

— Так, яшчэ я займаюся грэка-рымскай барацьбой і нават заняў другое месца на прэстыжных спаборніцтвах сярод юніёраў. Таксама іграю на гітары.

**— Кім ты хочаш стаць у будучыні?**

— Грунтоўна я пра гэта не думаў, хутчэй за ўсё — трэнерам па барацьбе, але графіці, мяркую, не кіну. Гэта застанецца маім хобі.

**— Дзякуй за размову!**

— Бывай, чэл! *("Чэл" са слэнга — чалавек).*

Распытваў **Глеб ЛАБАДЗЕНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Антон КАРКАНІЦА і яго работы.**





«ВЯНОК ДЗІВОСАЎ»

# БУЛЬКА

**Над вёскай навісла хмара. З яе паліў дождж. А пад акном была ямка. У гэту ямку са страхі закапалі кроплі Кап-Кап. І калі ямка перапоўнілася, з яе пацёк ручаёк Булька.**

**— Буль-буль! — заспяваў ён весела.**

**А кроплі яму і кажуць:**

**— Ты бяжы па дарожцы. На тваім шляху будзе рэчка. Ты ўвальешся ў яе і станеш магутным рачным патокам. Але памятай: у хмары ўжо мала вады, і калі ты не паспееш дабегчы да рэчкі, дык загінеш.**

**Булька выбег за вароты і пабег па дарожцы. Але тут з акна выглянуў Колька. Убачыў ён Бульку, выскачыў з хаты і пагнаўся за ім. Дагнаў і загарадзіў яму нагой дарогу. Булька абагнуў Колеву нагу і пабег далей. Тады хлопчык забег наперад і зрабіў з пяску запруду. Булька хацеў пераскочыць цераз запруду, але яму не ўдалося.**

**— Ага! Папаўся! — узрадаваўся Колька. — Цяпер ты ад мяне не ўцячэш.**

**І тут перастаў дождж. Спалохаўся Булька: гэта ж у хмары больш няма вады і цяпер ён не паспее дабегчы да рэчкі! Убачылі кроплі Кап-Кап, што Булька трапіў у бяду, і заспяшаліся яму на дапамогу. Яны саскочылі са страхі, дабеглі да запруды і падпіхнулі Бульку.**

**— Бяжы хутчэй! — крыкнулі яны.**

**Булька рвануўся наперад, прарваў запруду і пабег так, што Колька не змог яго дагнаць.**

**— Куды ж ты! Пачакай! Спыніся! — закрычаў хлопчык.**

**— Я не хачу быць бруднай лужынай! — ужо здалёк крыкнуў яму Булька і ўліўся ў рэчку.**

**А на рэчцы стаяў млын, і рачная вада круціла вялізнае кола. Ад яго круціліся жорны і малолі зерне на муку. А потым людзі пяклі з мукі смачныя булкі, якія з задавальненнем еў і Колька.**

**Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА.**

КРЫЖАВАНКА

## ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 1. Достоинство. 3. Рельс. 4. Силок. 6. Происшествие. 7. Пряха. 8. Родник. 9. Штопанье. 11. Новость. 14. Корзина. 15. Час. 16. Зрачок. 17. Попустительство. 19. Ржавчина. 20. Воскресенье. 22. Чашка. 24. Жестокость. 26. Глазурь (для посуды). 27. Одиночество. 28. Счёт. 29. Овощи. 30. Холм.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Боярышник. 2. Усадьба. 3. Утро. 4. Опоздание. 5. Клюква. 7. Поведение. 10. Грабёж. 11. Знаменатель. 12. Тетрадь. 13. Проворство. 17. Бутылка. 18. Пряник. 21. Пруд. 23. Ворота. 24. Цепь. 25. Игрушка. 26. Дворец.**



**Склала Любоў ЮНАВА.**

АЙБАЛІТ З БРЭСТА

**● Раман КАБЯК.**

Брастчанка Ірына Ахмедава, шкадуе выкінутых, пакалечаных звяроў і птушак. Каго толькі ні было ў яе кватэры! Яна падбірае бяздомных кошак і сабак, лечыць іх і аддае людзям. А неяк сусед прывёз бусліху з паламаным крылом — відаць, папала ў сілок. У Ірыны Іванаўны Пятруша (бусліха) папраўлялася, стала ручной. Кошак і сабак ад сябе адпужвае, тараканаў у кватэры знішчыла. Вельмі любіць сваю гаспадыню, а яшчэ музыку, гукі гітары. Лятаць яна ўжо не зможа, але пачала віць гняздо: значыць, думае асесці тут на жыхарства. Ірына Іванаўна на цёплы час маркуе перасяліць Пятрушу бліжэй да вадаёма, каб лягчэй было пракарміць гэтую вялікую птушку.

НА ЗДЫМКУ: Ірына АХМЕДАВА і яе Пятруша.



«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар **Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.** Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2667.
Падпісана да друку 23.10.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).